# ЛіМ ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

12 ВЕРАСНЯ 2003 г. № 37/4223


**"Праз літаратуру да духоўнасці" —** ***артыкул Уладзіміра МІХНО.***

2



***"Там, дзе вежы Сафіі..." —*** **фотарэпартаж з Дня беларускага пісьменства.**

12





GOETHE-INSTITUT MINSK



# Інстытуту ІМЯ ГЁТЭ Ў МІНСКУ —10 гадоў



**Барбара Фрэнкель-Тонэт:**

***"У Беларусі вялікі патэнцыял, і мне думаецца, калі кожны чалавек зможа рэалізаваць свой патэнцыял, вас чакае цудоўная будучыня".***

Стар. 13

# КОЛА ДЗЁН

**7 верасня ў старажытным Полацку прайшло свята — Дзень беларускага пісьменства. Перад удзельнікамі і гасцямі ўрачыстасцей было агучана віншаванне са святам ад Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі, у якім гаворыцца:**



**"Паважаныя сябры!**

**Сардэчна віншую вас з Днём беларускага пісьменства.**

**Сёлета мы адзначаем гэта свята ў дзесяты раз. Шлях Дня беларускага пісьменства праходзіў праз славутыя культурныя цэнтры Беларусі, асвятляючы наша жыццё непагасным агнём ведаў, пісьменства, мастацкага слова.**

**Вельмі сімвалічна, што юбілейныя ўрачыстасці зноў, як і дзесяць гадоў таму назад, адбываюцца ў Полацку. Гэты горад стаў калыскай нашай культуры. Ён даў Беларусі сусветна вядомых мысліцеляў і асветнікаў — Еўфрасінню Полацкую, Францыска Скарыну, Сімяона Полацкага, помнік якому будзе адкрыты сёння.**

**Постаці нашых вядомых землякоў стаяць на варце беларускай духоўнасці. Мы, нашчадкі славутых продкаў, будзем і надалей выконваць іх галоўны запавет — любіць і бараніць сваю Радзіму, памнажаць яе веліч і прыгажосць, шанаваць і берагчы культурную спадчыну беларускага народа.**

**Шчыра жадаю ўсім удзельнікам і гасцям свята моцнага здароўя, жыццёвай мудрасці і аптымізму, поспехаў у працы і асабістага шчасця".**

### *КАШТАРЫС ТЫДНЯ*

У сувязі з фарміраваннем рэспубліканскага бюджэту на 2004 год Цэнтральная камісія па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў вызначыла папярэдні каштарыс расходаў на правядзенне выбараў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі, якія павінны адбыцца ў наступным годзе. Папярэдні каштарыс рабіўся з улікам таго, што выбары ў Беларусі абыходзяцца ў суму каля аднаго долара на кожнага выбаршчыка. Усяго такіх выбаршчыкаў у Беларусі каля 7 мільёнаў. Словам, папярэдні кошт парламенцкіх выбараў — 7 млн. долараў.

### *ЛІЧБЫ ТЫДНЯ*

Пасольствам Беларусі ў Польшчы да пачатку навучальнага года дзіцячаму садку № 14 г. Беластока з польскай і беларускай мовамі навучання перададзена новая беларускамоўная шыльда. Дзіцячы садок з выкладаннем беларускай мовы ў Беластоку існуе з 1995 года. У садку беларускую мову ў дзвюх узроставых групах вывучаюць больш як 35 дзяцей. У новым навучальным годзе ў Падляскім ваяводстве Польшчы 3735 вучняў у 25 пачатковых класах, 13 гімназіях і двух ліцэях будуць вывучаць беларускую мову, літаратуру і гісторыю.

### *ПЛАНЫ ТЫДНЯ*

На пачатку верасня намеснік міністра спорту і турызму Рэспублікі Беларусь Валерый Хатылёў паведаміў СМІ, што ў нашай краіне плануецца стварэнне спартыўнага дзяржаўнага тэлеканала. Нядрэнна... Хацелася, каб на новым канале хаця б на 50 працэнтаў гучала беларуская мова...

### *ВЫСТАВА ТЫДНЯ*

Новую серыйную лінію тэлевізараў з абсалютна плоскім экранам, DVD-плэеры і лічбавыя радыёпрыёмнікі прадстаўляе ААТ "Гарызонт" на буйнейшай міжнароднай выстаўцы бытавой электронікі IFA—2003. Яна праходзіць у Берліне, сабраўшы больш за 1 тысячу экспанатаў з 37 краін свету.

### *ПРЫЗНАННЕ ТЫДНЯ*

Больш 30 гадоў прайшло з дня напісання "Сказа пра Лысую гару", Увесь гэты час ішлі пошукі аўтара, які схаваўся пад псеўданімам. На старонках "ЛіМа" вельмі актыўна вяліся спрэчкі аб аўтарстве. Называлася шмат імён, але большасць сыходзілася на Нілу Гілевічу. І вось 30 жніўня Ніл Сымонавіч прызнаўся сам, што ён сапраўдны аўтар "Сказа пра Лысую гару".

**ЗАПАТРАБАВАНА ЧАСАМ**

# ПРАЗ ЛІТАРАТУРУ ДА ДУХОЎНАСЦІ

Неяк адзін мой знаёмы падлетак прызнаўся мне, што ў сваім жыцці ён па ўласным жаданні не прачытаў ніводнай кніжкі, дый прымусова (маецца на ўвазе, з таго, што задавалі па праграме), ён таксама не надта начытаўся. Усе яго прачытаныя кніжкі можна пералічыць на пальцах адной рукі. І гэта было прызнанне не якогасьці невука, а... выдатніка. Вышэйшую гадавую адзнаку па літаратуры мой знаёмы атрымаў за тое, што асіліў-такі аповесць "Знак бяды".

— Па-мойму, Быкава, — падумаўшы, удакладніў ён. — А вось Караткевіча я нават не стаў чытаць. Дужа тоўстая кніжка.

— "Каласы пад сярпом тваім"?

— Ага.

— Чаму ж ты так не любіш чытаць?

— Гэта вельмі доўга і нудна. Вось камп'ютэр — іншая справа.

**Дык да якой жа ідэалогіі мы імкнёмся? Хто адкажа? А, можа, трэба імкнуцца да ўдасканалення духоўных прыярытэтаў народа, і гэта будзе ідэалогія?.. І чаму нельга, напрыклад, тэрмін "ідэалогія" замяніць на больш прывабны: "нацыянальная ідэя". Тая самая ідэя, якую шукае не адна суверэнная краіна.**

Хлопец вучыцца ў тэхнікуме і збіраецца паступаць у інстытут, не па філалагічным профілі, дзе, спадзяецца, ніхто яго прымушаць чытаць не будзе. Такім чынам ён стане высокакваліфікаваным спецыялістам з вышэйшай адукацыяй і будзе ў кагосьці начальнікам...

Зрэшты, не будзем пераходзіць на персаналіі. Паспрабуем запытацца ў саміх сябе, чаму чытанне для нашых дзяцей стала справай доўгай, нуднай і нецікавай? Чаму літаратура ў школе становіцца абузаю, прычым, як дзецям, так і настаўнікам?

Настаўнікі-філолагі скрушна заўважаюць, што школьная праграма перагружана творамі, і ў выніку праходзяць іх дзеці галопам па еўропам. Возьмем дзевяты клас. Атрымоўваецца ледзьве не так: што ні ўрок, то новы твор. А ў пятым класе за пяць урокаў праграмаю разлічана прайсці шэсць твораў. Такая вось вандроўка па літаратурным свеце – наўскапыты. Да таго ж, ледзьве не штогод мяняюцца творы пісьменнікаў, прапанаваныя для вывучэння. Дый саміх пісьменнікаў то выкідваюць з праграмы, то вяртаюць зноў. Выкінулі "Новую зямлю", затым вярнулі. Заміж коласаўскага "Мужыка" паставілі чамусьці малавядомага і больш складанага для дзіцячага ўспрымання "Рольніка". Дарэчы, "рольнікамі" нашпігавана ўся сучаснагая праграма. Навошта было, напрыклад, заміж "Пінскай шляхты" Дуніна-Марцінкевіча ўключаць яго складаную філасофскую "Ідылію"? Навошта прапаноўваць дзецям пачынаць знаёмства з Быкавым яго, ну, зусім не дзіцячай аповесцю "Аблава"? Навошта ўрэшце агаломшваць падлеткаў "Ціхай плынню" Гарэцкага? Няўжо для таго, каб з малых гадоў выхаваць "алергію" на пісьменнікаў і, значыць, на ўсю літаратуру беларускую ды і рускую? Крута хапіў? Аднак, менавіта так лічаць многія настаўнікі. Не адолеўшы аднойчы непад'ёмнага твора, падлетак яшчэ не хутка вернецца да яго новага прачытання. Няўжо камусьці хочацца, каб як мага болей беларусаў лічыла, што няма ніякай беларускай літаратуры, а ёсць толькі стогны, енкі, пазёрства і амбіцыёзнасць. Ну, а чым, скажыце, правініўся лынькоўскі "Міколка-паравоз", якога выкінулі з праграмы? І чым за яго лепшы "Добры хлопец Дзік" таго ж аўтара? Нехта скажа пра "несучасную", аджыўшую сваё ідэалогію, з-за якой пад "рэпрэсіі" трапілі і коласаўская "Дрыгва", і Сцёпка з Аленкаю, якія былі выйшлі на прасторы жыцця. А вось настаўнікі, прынамсі, тыя, з якімі мне давялося гутарыць, хацелі б вярнуць тыя "рэпрэсіраваныя" творы хаця б па адной простай прычыне: яны былі зразумелыя дзецям, лёгка чыталіся і не адштурхоўвалі ад літаратуры. А што да выхавання, то няхай бы лепей дзеці выхоўваліся на прыкладзе мужнага дзеда Талаша, чымся на цынічным "гераізме" сваіх тэлекуміраў з серыялаў "Брыгада", "Секс в большом городе" і г.д. Адна мая знаёмая настаўніца сказала так:

— Было б лепш за ўсё, каб у школьнай праграме ўказвалася толькі прозвішча пісьменнікаў. Быкаў. Мележ. І ўсё. Я сама знайду, якімі творамі адкрыць для дзяцей тое ці іншае літаратурнае імя.

Кожны пісьменнік — дзіця сваёй эпохі. І не поўным будзе літаратурны партрэт Крапівы без яго "Жабы ў каляіне", "што пнецца на хаду кульнуць савецкі воз". І не трэба "прычэсваць" ідэалагічным грабеньчыкам усіх пад адну мерку. Пісьменнікі ёсць такія, якія яны ёсць. Гэта беларуская літаратура.

Вось мы і зноў загаварылі пра ідэалогію. Але, сапраўды, як ужо адзначалася, каб пра яе гаварыць, трэба ведаць, пра што гаворыш. Ці ведаем мы дакладна, якая ідэалогія нам сёння патрэбна? Здаецца, пакуль — не ўсе і не зусім. Прызнаемся сабе шчыра ў гэтым. Адны настальгуюць па савецкіх часінах, ды вельмі хваравіта з крыўдаю ўспрымаюць усё новае, хай сабе і сапраўды годнае, не прымаюць яго. Другія гатовы "рэпрэсіраваць" любы "прасавецкі" пісьменніцкі радок, а заадно і выкінуць на сметнік яго аўтара. Без крайнасцяў мы не можам. Хочацца, каб паменей вакол школы філасофствавалі і мудрылі, каб паменей эксперыментавалі з праграмамі дый увогуле "апякалі". Толькі тады вернем літаратуру ў школу, а літаратара — у народ, калі здолеем гэты самы народ зацікавіць літаратураю. А таму творы, якімі пачынаецца знаёмства з пісьменнікамі, павінны быць невялікімі, яркімі, добра ілюстраванымі, не надта мудрагелістымі ды вычварнымі.

Аднак жа, нам, пісьменнікам, пра школьныя праграмы думаць няма часу, мы — змагаемся. Ляцяць пух і пер'е. "Чырвоныя" б'юць "белых", "жоўтыя" — "карычневых". Яшчэ адзін калярова ілюстраваны трылер. Баявік сапраўдны. Вось толькі не на тэлеэкране, а ў жыцці. На радасць абывацелю, які ўрэшце зусім перастаў чытаць, стаміўшыся ад той жа самай "рознакаляровай літаратурнай ідэалогіі", якая літаральна пранізвае кожны новы пісьменніцкі твор, пакідаючы ўсё менш месца мастацкаму слову і вобразу.

Дык да якой жа ідэалогіі мы імкнёмся? Хто адкажа? Ці ўсведамляем хоць самі? А, можа, трэба проста імкнуцца да ўдасканалення духоўных прыярытэтаў народа, і гэта будзе ідэалогія?.. І чаму нельга, напрыклад, тэрмін "ідэалогія" замяніць на больш прывабны: "нацыянальная ідэя". Тая самая ідэя, якую шукае не адна суверэнная краіна. Тая самая ідэя, якую, можа, і кожны па-свойму разумее, аднак, яна магла б "ускалыхнуць", "праветрыць" грамадства, абудзіць, падштурхнуць да ажыўленай, плённай дыскусіі, а не наадварот смяротна напалохаць яго пэўную частку архаічным дагматызмам.

**Уладзімір МІХНО**
**в. Чэрцы, Лепельскі р-н.**

# ІДЭАЛОГІЯ ЯК РЭЛІГІЯ

Сёння можна толькі шкадаваць, што маладая незалежная дзяржава адразу ж не стварыла сваю ідэалогію, якая мела б статус своеасаблівай рэлігіі.

Савецкая ідэалогія, створаная, дарэчы, паводле біблейскіх пастулатаў, была безразважна выкінута на ўзбочыну. Былі апляваны і асмяяны такія святыя паняцці як аддданасць свайму народу, любоў да Радзімы, патрыятызм, узаемадапамога, пачуццё адказнасці за свае ўчынкі, каноны маралі і прыстойнасці — якраз усё тое, чаго нам так не хапае цяпер.

Савецкая ідэалогія, якая ў нейкай ступені выконвала асобныя функцыі царквы ці касцёла, была растаптана. Новая адразу не з'явілася.

Гэта ідэалагічны пралік маладой беларускай дзяржавы, асабліва, калі мець на ўвазе, што ідэалогія — гэта сістэма палітычных, прававых, маральных, рэлігійных і філасофскіх ідэй і поглядаў, праз якія ўсведамляюцца і ацэньваюцца адносіны людзей да рэчаіснасці. Можна не без падставы сказаць, што менавіта страта ідэалогіі падвяла нас да абрыву, паляцеўшы з якога ў асіміляцыйную прорву, мы згінем як нацыя.

Ідэалагічнае выхаванне нам патрэбна, як паветра ў высакагор'і.

Цяпер, калі ідзе перабудова сістэмы школьнага навучання, самы час падумаць і пра ідэалагічнае выхаванне школьнікаў. Гэта можна рабіць і без спецыяльнага прадмета "Ідэалогія", выкарыстоўваючы ўрокі роднай літаратуры, гісторыі, краязнаўства, малявання і іншых. Не меншую ўвагу трэба надаваць і эстэтычнаму выхаванню.

Хто павінен гэтым займацца? Відавочна, дзяржава. Гэта яе абавязак — захаваць нацыю. Захаваць адзін з трох вялікіх славянскіх народаў. Гэта тым больш патрэбна, калі мы і праўда хочам — стварыць з Расіяй адзіную дзяржаву. І калі ў нас будзе свая ідэалогія — будзе і магчымасць не растварыцца ў бурнай стыхіі расійскага этнасу і захаваць сябе як нацыю.

**Яўген МІКЛАШЭЎСКІ**

ЗАПАТРАБАВАНА ЧАСАМ

# ВЕРУ Ў БЕЛАРУСКУЮ НАЦЫЯНАЛЬНУЮ ІДЭЮ

Сёння трэба ўсім ведаць якую дзяржаву будуем. Напрыклад, капіталістычную, сацыялістычную або якой іншай мадэлі, можа, і невядомай, але сваю дзяржаву. Далей: калі ўжо не вытрымала выпрабаванне жыццём, як здавалася, непахісная марксісцка-ленінская ідэалогія, распрацоўкі якой вяліся дзесяцігоддзямі арміяй тэарэтыкаў камуністычнага будаўніцтва, то трэба думаць, якіх намаганняў вымагае гэта грандыёзная справа. З надзеяй, вядома, на карысныя вынікі. Ды перш за ўсё, як здаецца, усім здаровым інтэлектуальным сілам грамадства трэба набрацца цярпення, каб як след усвядоміць, ацаніць, напрыклад, дзейнасць былога саюзнага і рэспубліканскага кіраўніцтва, што стварыла прадумовы распаду СССР. Не даю ацэнку: добра гэта ці кепска, але аналіз павінен быць дакладны, чаму не жыццястойкай аказалася тая самая, нібыта прагрэсіўная ў свеце ідэалогія.

Дзеля аб'ектыўнасці, думаю, асаблівую ўвагу пры гэтым звярнуць на пралікі, дапушчаныя пры выбары стратэгіі і тактыкі палітычнага і эканамічнага развіцця рэспублікі. А яны ёсць, і гэта зразумела: будуем новую дзяржаву. І няма нічога кепскага, калі мы будзем як след браць урокі з мінулага.Свайго і чужога. Пакуль жа, здаецца, мы не навучыліся гэта рабіць. Што ж да вопыту іншых краін, дык да яго часам адносімся скептычна, чапляючыся за свае аджытыя формы светаўспрымання. Так ужо было ў савецкія часы, дык не хацелася б, каб так было і зараз.

Скажу больш: жыццё такое, што нікога ніякімі лозунгамі паверыць ні ў якую ідэалогію не прымусіш. Ідэалогія, як вядома з гісторыі, падмацоўваецца канкрэтнымі фактамі існавання грамадства, накіраванымі на паляпшэнне жыцця ўсяго народа...

Зразумела, што без успрымання розумам і сэрцам нацыянальнай ідэі як сістэмы поглядаў на жыццё, грамадства і прыроду, якая б загартоўвала волю і ўзмацняла дух беларускай нацыі ў барацьбе за лепшае жыццё і, у сваю чаргу, была здольная абараняць сама сябе, увогуле не можа быць і размовы аб дзяржаўнай ідэалогіі. Пра гэта трэба гаварыць спакойна, памяркоўна, удумліва ў адпаведнасці з патрабаваннямі жыцця. Вось, напрыклад, не так даўно кіраўнік дзяржавы сказаў так: "На жаль, я пакуль такой нацыянальнай ідэі не ведаю. Калі хто-небудзь з вас ужо адчуў яе, скажыце, абмяркуем разам, падыдзе — будзем прапаноўваць народу".

Сапраўды, мы яе ўжо вызначылі, ці толькі на подступе? І хто сёння дакладна скажа, якая яна, гэтая ідэя. Можа, спачатку "вызначымся", каб потым сапраўды ведалі, што і як рабіць... І тут ёсць з чаго пачынаць. Вядома, найперш з вяртання роднай мовы ў жыццё грамадства. Гэта добра, калі чалавек ведае шмат моў. Але ж толькі свая, дадзеная яму Богам, вызначае яго як сына, або дачку сваёй Айчыны.

Калі, як кажуць, глядзець праўдзе ў вочы, то па моўных і другіх прыкметах Беларусь ужо сёння трацiць многія менавіта свае нацыянальныя адметнасці. І гэта трэба памятаць, думаючы пра сваю ідэалогію. І я ўпэўнены, што абапіраючыся на свой найвялікшы скарб — родную мову, спадчыну, культуру, — наш працавіты і таленавіты беларускі народ зможа супрацьстаяць самым неверагодным спробам яго духоўнага разбурэння, што нясе нам розная так званая маскультура і г.д.

Так, нам патрэбна свая ідэалогія. Гэта вынікае з жыцця. Думаецца, напрацаванае нашым народам вякамі стварае нам аб'ектыўныя ўмовы для рэалізацыі сваёй нацыянальнай ідэі. Што датычыць майго яе разумення, то гэта — пабудова сваёй незалежнай дзяржавы, грунтуючыся на ідэалах справядлівага і шчаснага грамадства.

**Мікалай ВІНЯЦКІ,**
**паэт, былы галоўны рэдактар Белгеадэзіі**

НАДЗЁННАЕ

# «БЕЗ ХЛЕБА — ДРЭНЬ ПАЛІТЫКА»



Уявіце такую карціну... Жніво. Пагодлівы дзень. Людзі працуюць у полі: не ўпусціць бы шанц, ды зжаць, абмалаціць, адвезці... Пот няма калі выцерці. А тут вы, не, лепш я (каб вам збоку ўсё бачна было), падыходжу да камбайна, спыняю, ды "тыц" камбайнеру ў твар мікрафон!

— Скажыце, калі ласка, як ідзе бітва за ўраджай...

Куды пасля гэтага мяне скіруюць?.. Кажаце, нехта, у каго характар добры, нікуды не скіруе, проста паглядзіць, як на дурня. А хто і сапраўды пашле – як мага далей... І правільна зробіць: для людзей, якія змалку ведаюць цану хлеба, якім потам ён паліваецца, перш чым ляжа на стол, ведаем жа, жніво ніколі не было "бітвай" за ўраджай. Ды якую чамусьці трэба абавязкова весці "шырокім фронтам", у дадатак да зусім бязглуздага ў дачыненні да клопату: "Першую скрыпку ў гэтым аркестры іграе камбайнер..."

Ведаем жа, ведалі, што бацькі сённяшніх хлебаробаў, (і нашы бацькі) і бацькі іх бацькоў, і іх бацькі, і гэтак далей, ажно да няпомных нам часоў не "бітвай", а працай лічылі сеяць і ўбіраць хлеб, зрэшты, як і ўвесь свой зямны клопат людзі лічылі так: праца. А розныя бітвы, ды яшчэ "шырокім фронтам", ды "стэпавыя караблі" і іншае смяхоцце ім навязвалі, ды і зараз, здараецца, яшчэ навязваем мы, журналісты, тыя хто пра іх так піша, ды лічыць: гэтым самым "уношу свой пасільны ўклад у засекі Радзімы".

Здаецца, сёлета ці не ўпершыню мы, "шырокім фронтам сваіх выданняў", пішучы пра жніво, менш за ўсё гаварылі пра "бітву" за ўраджай. Бач, і з нашай, (людзей, якія пішуць у газетах), псіхалогіі нарэшце адыходзіць гэтае паняцце, ілжывая перакананасць (а ці самі верылі), што праца (любая), "бітва", як аснова жыцця. І пакуль "бітвы" гэтыя мы за некага, а іншыя, ажно за цэлы народ, вялі, людзі тыя, (народ наш), не слухаючы дамарослых "ваяроў", проста працавалі. Калі да вяскоўцаў, з каго я пачаў гаворку, дык занадта ж нялёгка працавалі яны і сёлета. Іншы раз, сапраўды, як катаржнікі. Толькі што без прымусу. Нягледзячы на тое, што часам іх падманваюць. Абражаюць. Насміхаюцца з іх, "ёрничают": давай, давай...

Абражалі?.. Так. Ды хаця б, тымі ж "шырокімі франтамі" і "бітвамі". Падманвалі?.. А ня-го ж... Ды хаця б тым, што забіралі з падворкаў, хлявоў малако, жывёлу, абяцалі грошы, а потым... (Праўда, своечасова іншыя разабраліся, што да чаго, прымусілі "прекратить"). Насміхаліся?.. Ды ў мяне цэлая папка выразак з газетак, у якіх некаторыя журналісты і журналісткі, прызваныя туды "служить", такім чынам "нарабатывают свой хлеб с маслом". (Як сказаў мне адзін старшыня калгаса, мой сябра, перадаючы мне матэрыялы (у адным і яго абразілі): "Хай напрацоўваюць, але ж не на нас, тых, хто хлеб гэты і масла здабываюць.) Ёрнічаюць?.. Самі ведаеце, чытаеце.

Словам, звычайнай прыстойнасці ў многіх з нас, хто піша пра хлебаробаў, часам бракуе. Ну няхай, бракавала...

І так, нашы вяскоўцы, тыя людзі, якія жывуць з таго, што вырошчваюць хлеб (а калі ўжо так, дык усё, чым стол багаты), паспяхова справіліся са жнівом. (Між іншым, ні ў адным творы беларускай літаратуры вы не знойдзеце, калі пра вёску сур'ёзна — "фронт" і "бітва". А калі і знойдзіце, дык — высмейванне праз гэта тых, хто перашкаджае працаваць.) І надвор'е было не вельмі спрыяльнае. І шмат дзе не хапала камбайнаў. І паліва, запчастак не хапала. Увогуле, на нашу агульную бяду, на сорам наш, шмат чаго іншага не было многа дзе, а калі ў каго і было, дык не ўсе маглі купіць.

Гэтаму іншыя "зычлiўцы" радаваліся: чым горш — тым лепш. (Каму лепш, свайму народу, ці "зычліўцам?") Ды шмат што падказвалі "ясновидцы" нашы свае і заезджыя. І як "збываюцца" прадказанні розных самадзейных астролагаў, так "збылися" і іх "предвидения". А краіна здабывала хлеб. Думаю, няма патрэбы прыводзіць лічбы па абласцях, яны вядомы з дзяржаўнай прэсы. Але напомню галоўную. Каля 6 мільёнаў тон зерня па краіне. Спецыялісты кажуць: хопіць яго нам. А хто папросіць, дык і прададзім колькі зможам. (Ужо, ведаем, просяць.)

А газеты пагаворваюць ужо аб традыцыйным рэспубліканскім свяце "Дажынкі". Ну што ж, як кажуць "похвально, похвально". А чаму б і не? "Нивы сжаты, рощи голы..." Ледзь не стагоддзе таму пісана... Не, "не в тему". Вось што трывожыць: дажынкі — то дажынкамі, толькі ці для ўсіх, хто на зямлі жыве яны ў "радасць"? Для калгасаў і саўгасаў — так. А для соцень, калі не тысяч вясковых пенсіянераў, якія і па сёння ўсё яшчэ не сабралі зерне на сваіх участках — слёзы. Не перабольшваю: слёзы... Бачылі сюжэт па адным з каналаў нашага тэлебачання, дзе расказвалася, што пенсіянеры, былыя калгаснікі, якія па 60—50—40 гадоў адрабілі ў гаспадарках сёння павінны тым гаспадаркам аддаць цалкам пенсію, а то і дзве, каб іх сотачкі ім адмалаціліі?.. А ў каго няма грошай?..

Кіраўнікі такія гавораць: яны (пенсіянеры. — **У. С.**) зараблялі больш чым тыя, хто сёння ў нас працуе. Як кажуць, на здароў'е і добрае жыццё пенсія тая, якую дзяржава выдае без затрымкі тым, хто адрабіў сваё. А вось калі ты такі "вдохновитель", што не можаш весці гаспадарку так, каб тваё "подчиненные" па-людску зараблялі і жылі, дык, можа, табе лепш сысці. Уступі сваё месца таму, хто сапраўды зможа кіраваць гаспадаркай. А такіх людзей у нас, што умеюць, хочуць і могуць кіраваць — шмат. Цікава, ці шмат прыкладаў, калі наогул хто з кіраўнікоў не справіўшыся са справай добраахвотна ўступіў сваё месца таму, хто сапраўды можа "кіраваць"?.. Ды і ў нас, пісьменнікаў — таксама!..

Словам, сапраўды, як адзначыў кіраўнік дзяржавы на чарговай выязной нарадзе па пытаннях развіцця сельскай гаспадаркі ў СВК "Агракамбінат" Сноў, "ёсць добры кіраўнік — ёсць гаспадарка, няма кіраўніка — няма гаспадаркі". (Цытата са "Звязды" ад 4 верасня гг., матэрыял Уладзіміра Наркевіча "Шэсцьдзесят лепшых гаспадарак Беларусі пакажуць шлях адраджэння вёскі".)

Канечне, не магу я, або хто іншы старонні загадаць такім кіраўнікам дапамагчы па-людску старым, нямоглым, тым, хто аддаў здароўе калгасу, саўгасу. Але тут ёсць вельмі важны маральны аспект. А менавіта: выходзіць, пакуль чалавек рабіў, гарбаціўся, скажам, не адзін год за "палачкі", пакуль з яго, як кажуць, выціскалі сокі, пугай выганялі на працу, пакуль яго фактычна няшчадна эксплуатавалі — ён быў патрэбен. Як рабсіла. Ён быў патрэбен і тады, калі краіна стала жыць багацей, калі мы ўжо, як казаў адзін пісьменнік, "свайго хлеба наеліся". (Да рэчы, гэты знакаміты пісьменнік, як быў маладзейшы, летам кожны год браў адпачынак у часопісе за свой кошт і ехаў у сваю вёску, у свой калгас, дзе асабіста касіў і нарыхтоўваў калгасу 2 тоны сена на карову, бясплатна!)

Слабо ўсім нам, хто сялян "вдохновляет" і "вучыць"?! Ды асабліва тым, хто імкнецца супроцьпаставіць пісьменнікаў народу? Што датычыць сялянскіх падворкаў, ды дапамогі былым калгаснікам ва ўборцы. Летась, і пазалетась, і раней старшыні калгасаў надта баяліся: не дапаможаш — паскардзіцца вышэй – здасі партфель. Тады з гэтым было строга. На дзяржаўным узроўні. Але жыць і працаваць з пачуццём страху — больш чым абразліва для чалавека. (Хаця, падказваюць, для каго як...) Толькі літаратура вучыць, ці не лепш для самога чалавека, для тых, сярод каго жыве і з кім працуе, годна пачуваць сябе ў любой сітуацыі. (Але... не кожнаму гэта дадзена, зноў падказваюць. Не веру! Усё залежыць ад самога сябе.) Дык вось, тады, напрыклад, я калясіў па сваім Кіраўскім раёне і бачыў: адны старшыні баяцца аслухацца патрабавання, іншыя ўбіраюць сялянскія прысядзібныя ўчасткі, таму, што сапраўды інакш не могуць. Скажам, мой сябра, старшыня калгаса "Чырвоны Баец" Аляксандр Серакоў казаў: "Валодзя, зразумей, мы абавязкова, у час, што б нам гэта не каштавала, абмалочваем шнурочак пенсіянера — хоць для нас яго жменька зерня ці не залатая. Для чалавека ж, які ўсё жыццё адрабіў — гэта архіважна: помняць, клапоцяцца, паважаюць. І ён, калі трэба, выйдзе на поле, ці на ток. Дапаможа. Параіць. А які прыклад мы паказваем тым, хто і сёння працуе, хто пойдзе на пенсію: калгас не забудзе!... Як казаў, мне адзін пенсіянер: ты да мяне з камбайнам — дык я ўспомню, што "І я — людзі".

Канечне, я не маю права ўказваць старшыням, каб помнілі, што і пенсіянеры — людзі. У гэтым, калі "і я — людзі" — і ідэалогія, і агітацыя, і выбары, і іх вынікі... Словам, усё тое, чым мы жывём. Яно не ведае ні лозунгаў, тыпу тых, якія некалі мы вывешвалі перад сяўбой ці ў жніво, ні бязглуздых журналісцкіх заклікаў, тыпу: "Усе на бітву за ўраджай", ды "Распачнём бітву за ўраджай шырокім фронтам" і г.д. Будзем рабіць так, каб кожны (не толькі ў вёсцы) сапраўды, адчуў: "Усе мы — людзі".

А што да жніва, як такога, дык хлеб сабралі. Ні надвор'е, ні абразы, ні "ёрнічанне", ні якія іншыя абразы хлебаробаў гэтаму не змаглі перашкодзіць. Сабралі, канечне дзякуючы дзяржаве: няхай хто аспрэчыць. А ён, хлеб, як спрадвеку казалі, усяму галава. А закончыць свае нататкі пра гэта хочацца радкамі з верша, які ўжо – "па тэме".

Помніцца, яшчэ ці не ў 1981 годзе пад час нарады маладых пісьменнікаў у Каралішчавічах тады яшчэ амаль нікому невядомы паэт Леанід Галубовіч з вёскі Вароніна Клецкага раёна прачытаў верш пра вясковых людзей, хлеб і палітыку. Там у фінале былі такія радкі: маўляў, спрачаюцца мужчыны (мужыкі) пра палітыку, пераліваючы з пустога ў парожняе, і кожны, здаецца, ведае, што і як рабіць. Пакуль...

*Пакуль не скажа дзед які,*
*З развагай аналітыка:*
*"Хлеб сеяць трэба, мужыкі,*
*Без хлеба – дрэнь палітыка".*

Апладзіравалі ўсе: і мы, пачаткоўцы, і сталыя пісьменнікі, сярод якіх быў Максім Танк...

Пасля я чытаў шмат вершаў пра хлеб. Некаторыя нават прымушаў сябе вывучыць: дарэмна... А гэты, як і знакаміты верш Максіма Танка "пра хлеб наш надзённы" не вучыў: яны неяк самі ўвайшлі ў памяць назаўжды... Як своеасаблівая ісціна, якую не грэх помніць. Усім.

**Уладзімір САЛАМАХА**

## У РЭДАКЦЫЮ "ЛіМа"

Шчыра дзякую калектывам рэдакцый часопісаў, газет, сябрам, якія павіншавалі мяне з 75-годдзем.

**Уладзімір МАЦВЕЕНКА**

# МАСТАЦТВА ЗАВАЮЕ СВЕТ

**Днямі ў Беларусь завітаў вядомы англійскі дырыжор Джулiян Гiббанс. Ён сустрэўся з кіраўніцтвам БДУ культуры, дзеля таго каб узгадніць праграму свайго наступнага візіту ў нашу краіну, запланаваць сумесныя выступленні са студэнтамі гэтай ВНУ. Дырыжор падараваў універсітэту ноты сучаснай сімфанічнай музыкі. Гэтае не першае яго наведванне Беларусі: у чэрвені ён правёў шэраг канцэртаў разам з аркестрам студэнтаў БДУ культуры. Хто ж такі гэты Джуліян? Паспрабуем намаляваць яго творчы партрэт.**

**Нарадзіўся ён у 1966 годзе ў Валіі (поўдзень Вялікабрытаніі) у інтэлігентнай сям'і: бацька — настаўнік, маці — арганізатар студэнцкіх паездак. Мае дзвюх сясцёр і брата. Сур'ёзна вывучаў гісторыю. Атрымаў дыплом бакалаўра мастацтваў, закончыўшы ў 1989 годзе Дархэмскі універсітэт у Англіі. Потым захапіўся аркестравым дырыжыраваннем, вучыўся ў Мюнхенскай кансерваторыі, а таксама ў Вюрцбургу і Базелі (1989—1995). Адначасова займаўся падрыхтоўкай музычных кадраў, выкладаючы ў розных музычных школах і гімназіях. Вучнямі яго былі як дзеці, так і дарослыя. Ён, напрыклад, рыхтаваў абітурыентаў да паступлення ў музычныя каледжы і кансерваторыю.**

**Пачынаючы з 1989 года Джуліян кіруе летняй музычнай школай у Вялікабрытаніі, куды штогод з'язджаецца моладзь з самых розных еўрапейскіх краін. Аркестр, у складзе якога маладыя музыканты з Іспаніі, Партугаліі, Аўстрыі, Германіі, Францыі, ЗША, Канады, выступае на канцэртных пляцоўках Вялікабрытаніі. Выконваюцца класічныя і сучасныя творы для сімфанічнага аркестра. Джуліян Гіббанс працягвае сваю музычную адукацыю — вучыцца іграць на валторне. А дырыжыраваў ён студэнцкім аркестрам у Германіі, сімфанічным аркестрам са Швейцарыі, аркестрам студэнтаў-медыкаў з тамтэйшых Базеля і Берна, іншымі маладзёжнымі выканальніцкімі калектывамі.**

**Музыкантам, якія сёлета прыязджалі ў Беларусь разам са сваім маладым, але вельмі кваліфікаваным дырыжорам, вельмі спадабалася наша краіна. Яны адзначылі гасціннасць і добразычлівасць яе жыхароў. Плануецца яшчэ некалькі візітаў дырыжора ў Беларусь. Ён збіраецца з'ездзіць у Італію, арганізаваць яшчэ некалькі аркестраў у сябе на радзіме. (Цікава, што, як ён сам сказаў, у яго зусім няма часу для хобі.) У сваю чаргу, беларускія студэнты-музыканты, якія вучацца ў БДУ культуры, ужо былі ў Вялікабрытаніі і паедуць і туды, і ў Швейцарыю, і ў многія іншыя краіны. Культурны ўзаемаабмен паміж нашымі дзяржавамі будзе працягвацца і надалей.**

**Так вандроўныя музыканты заваёўваюць свет сваім мастацтвам.**

Святлана САЧАНКА

# СВЯТА ПАМЯЦІ

**З году ў год у Лунінцы, на Лунінеччыне праводзіцца дзень памяці Міколы Калінковіча і Аляксандра Блока. Як вядома, лёс рускага паэта, аўтара паэмы "Дванаццаць" у час першай імперыялістычнай вайны звязаны з Піншчынай, Лунінеччынай. А ўраджэнец Лунінеччыны, журналіст, краязнаўца Мікола Калiновiч адну з сваіх кніг прысвяціў славутаму паэту — "Палескія дні Аляксандра Блока". Высока ацэнена ў друку, яна патрабуе новага выдання. На жаль, Міколы Калінковіча болей як дзесяць гадоў няма сярод нас, жывых. Але жыве памяць сярод лунінечан не толькі пра Блока, а і пра пісьменніка-земляка. Адна з вуліц Лунінца названа ў яго гонар. У цэнтры горада ўсталяваны помнік Міколу Калінковічу (аўтар-скульптар Мікалай Кандрацьеў). Праводзяцца футбольныя турніры імя М. Калінковіча. Натхніцель і арганізатар штогадовых святаў — журналіст і краязнаўца Таццяна Канапацкая. Вось і сёлета на свята памяці сабраліся сябры лунінецкага літаб'яднання "Палессе". Дзяліліся ўспамінамі, чыталі свае вершы.**

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ

***Як сцвярджае статыстыка, сёння ў рэкламным рынку Беларусі, як развіваючым сегменце нацыянальнай эканомікі, асноўную долю суб'ектаў гаспадаркі, якія займаюцца рэкламнай дзейнасцю, складаюць індывідуальныя прадпрымальнікі і юрыдычныя асобы. Найбольшай колькасцю зарэгістраваных прадпрымальніцкіх структур, якія ажыццяўляюць рэкламную дзейнасць, валодае Мінск. За ім ідуць Гомельская, Гродзенская, Брэсцкая, значна менш прадпрымальніцкіх структур сканцэнтравана ў Мінскай, Віцебскай і Магілёўскай абласцях.***

# РЭКЛАМНАЯ ПАЎЗА. ПАРА ПІЦЬ КАВУ?..

Што датычыць беларускіх спецыялістаў рэкламы, то за апошнія гады яны не толькі набраліся вопыту, але яшчэ і заслужылі прызнанне сярод калег іншых краін. Сведчаннем гэтага з'яўляецца не толькі ўдзел у міжнародных фестывалях рэкламы, але і перамогі ў конкурсах. Гэта пахвальна, але нас больш за ўсё трывожаць рэкламадаўцы. Менавіта яны (айчынныя і транснацыянальныя) уваходзяць сёння ў кожны дом праз тэлебачанне, радыё, газеты, Інтэрнет і, не пытаючыся, хочам мы таго ці не, што яны прапануюць, нахабна тыцкаюць нам у вочы сваім прадуктам па дзесятку, а то і сотні разоў. Мы ж, не сакрэт, калі ў эфіры пачынае гучаць рэкламны "кактэйль", у сваёй большасці аддаём перавагу сапраўднаму кактэйлю на кухні ці пераключаемся на іншы канал. А там – тое ж...

Чаго ж хоча, чаго ж чакае ад нас, спажыўцоў, рэкламная індустрыя? Несумненна, аднаго – купіць менавіта іх прадукцыю. Ім не важна, што іх рэклама часам разбуральная, ім важна знайсці перспектыўны рынак збыту вырабаў. І калі яшчэ дарослы чалавек заўважае ў гэтым "кактэйлі" прыхаваны падман, то моладзь цалкам успрымае рэкламу і робіць так, як хоча рэкламадаўца: цыгарэта і бутэлька піва неад'емныя спадарожнікі ў большасці з іх падчас так званай тусоўкі.

У студыі аднаго з расійскіх тэлевізійных каналаў абмяркоўваецца модны накірунак сярод некаторай часткі моладзі – выкарыстанне пірсінга і бодзіарта. Маладая, з выгляду, прывабная дзяўчына, радасна, аж узахлёб расказвае пра сваё захапленне, з гонарам паказвае цвічок у носе, бананчык у пупку, і каб не было у студыі шмат людзей, яна пра гэта гаворыць з жалем, то паказала б і колца з тытанавым шарыкам у інтымным месцы. Відэакамера выхоплівае з залы пачырванелы твар яе маці. Бачна, як жанчына хвалюецца, як ад сораму яна не ведае куды падзець вочы, усім сваім выглядам хоча не пагадзіцца з дачкой і, магчыма, яна і прыйшла ў студыю з апошняй надзеяй: пераканаць яе пры ўсіх, перад мільённай аўдыторыяй, што ганарыцца трэба не знешнасцю, бо ў людзей у пашане духоўны патэнцыял чалавека. Але праграма працягваецца, і ў студыю ўваходзіць другая ўдзельніца – прыхільніца бодзіарта. Заўважце, прыхільніца не татуіроўкі, не малюнка на целе, а – бодзірта, як жа, новае слова. У імкненні перайманія моды сваіх замежных равеснікаў, некаторая частка расійскай моладзі дайшла да абсурду. А можа, гэта не перайманне, можа, гэта генетычныя плады. Хто разбярэцца, хто падкажа, як і куды ісці, што знаходзіць і што браць з сабою, а што выкідваць, як смецце, як непатрэбшчыну, калі яны штодзень бачаць тыя рэкламныя ролікі па тэлебачанні, тыя рэкламныя шчыты ў гарадах: "Кацця не курыць... Кацця займаецца спортам... Кацця шакіруе..." Плячо Каці "закалата" (на самай справе наклейкай), нейкім арнаментам. Менавіта татуіроўкай, па ідэі распрацоўшчыкаў рэкламы, яна і шакіруе равеснікаў. Не ўсіх, канечне. Шмат хто з хлопцаў і дзяўчат разбяруцца самі. Адкінуць непатрэбнае. А вось што датычыць маладых, асабліва тых, хто паступае вучыцца на рабочыя спецыяльнасці, хто прыехаў упершыню ў горад, то яны найбольш падпадаюць пад уплыў рэкламы, яны цалкам капіруюць яе і лічаць, што калі рэкламу паказваюць па тэлебачанні, калі рэкламныя шчыты размешчаны ў горадзе – значыць так і павінна быць. Больш таго, усё зроблена з дазволу ўладаў. Гэта што, дзяржаўная ідэалогія?.. І чаму чыноўнікі, якія ў адпаведнай установе выпісваюць дазвол прадпрымальніку ўзвесці паабапал дарогі ці вуліцы рэкламнае збудаванне, не думаюць пра тое, што на тым збудаванні будзе рэкламавацца? Можа, для іх галоўнае – грошы, якія ідуць ад прадпрымальніка ва ўстанову за арэнду зямлі, на якой узвышаецца рэкламнае збудаванне. Інакш як можна расцаніць рэкламу адной транснацыянальнай тытунёвай кампаніі, якая заклікае ўсіх "открыть свой мир". Прамы заклік, асабліва для моладзі, накурыцца "да чорцікаў" і ўбачыць "свой мир". Шчыра кажучы, гэта ўжо самы сапраўдны "беспредел".

Мы развучыліся думаць, перш чым нешта зрабіць. Мы так-сяк навучыліся "зашибать" грошы, сёння, пакуль ёсць магчымасць, а "там, хоць трава не расти..." А трава, дарэчы, якраз і прарастае. Пустазелле, на жаль...

З вакна маёй кухні бачна, як пад дажджом у двары трое непаўналетніх распраўляюцца з дзіцячым веласіпедам. Яны кідаюць яго аб асфальт, б'юць аб слуп, закідваюць каменнем... Веласіпед, здаецца, не жывая душа, але ж жывой душой зроблены, ды і пакінуты некім, мабыць, з-за дажджу. Тым не менш, хлапчукі дайшлі да шаленства: разбітымі часткамі веласіпеда б'юць аб сцяну будынка, пакуль не адлятае кавалак тынкоўкі і не трапляе аднаму з іх у твар. Юны вандалік плача, ліецца кроў, збянтэжанасць у вачах равеснікаў, а потым – рогат...

Гляджу іншы раз на дзяцей, што гуляюць у двары, і думаю: стварыць для іх належныя ўмовы для цікавай гульні, арганізуй іх, павядзі за сабою і табе ўдасца закласці ў іх душы творчы стваральны дух. Напэўна, праз нейкіх пятнаццаць-дваццаць гадоў не былі б пабітымі ў нашых дварах лямпачкі на электрычных слупах, не былі б распісаны непрыстойнымі словамі сцены пад'ездаў, не падпальваліся б паштовыя скрынкі. Карацей кажучы, разбуральная энергія пакінула б падлеткаў – узяла б верх стваральная праца. А так, сёння ў большасці двароў шматпавярховак калі і знойдзеш якую-небудзь "так званую" пясочніцу, што больш прыгодна для катоў і сабак, ды тры-чатыры прымітыўныя драбінкі з пpажавелых труб – больш ніякіх забаў, дзе б дзіця магло пацешыцца, і няма. Трэба ведаць, што не кожны з бацькоў мае магчымасць (часцей за ўсё з-за грошай ці дэфіцыту часу) дазволіць дзіцяці займацца ў розных клубах, секцыях. Большасць дзяцей усё ж бавіць час у двары. Не лепшаму яны там вучацца, не лепшае пазнаюць. Менавіта адсюль, з двара, спачатку дробныя правіны, а потым і злачынствы. Мы ж па-ранейшаму, як толькі што не дай бог здарыцца, скідваем праблему на каго заўгодна: на дзіцячы сад, на школу, на бацькоў-п'яніц, нават на міліцыю, маўляў, яны не дагледзелі, толькі не на сябе, і па-ранейшаму сентыментальна марым: "Вось калі б разам... вось калі б ўсе..."

Не чакайце, проста недачакаецеся, такое немагчыма ўвогуле.

Выхаванне чалавека праз літаратурнае слова, праз стваральную працу павінна быць асновай у ідэалогії служэння Айчыне. Прычым ва ўсім: у сям'і, у працы, у грамадскім жыцці. Большасць з нас жыве па завядзёнцы, бо так жыць прымушаюць чалавека ўмовы. Шмат хто з нас хацеў бы рэалізаваць сябе, удасканаліць тыя прыродныя імкненні, якія хвалююць душу, бударажаць яе. Але ж займацца любімай справай удаецца не ўсім.

Зноў пераключаю праграмы тэлевізійных каналаў, і на адным з іх, дарэчы, беларускім, на фоне адных і тых жа відэакліпаў, штодзень рэжуць сэрца бягучыя радкі: "Две девченки с Серебрянки желают познакомиться с молодыми парнями", "Галя скучает, Галя ждет звонка..." і так далей. Кожны дзень, месяц, год... Тыя, хто валодае каналам, ведаюць і адчуваюць, што робяць больш паслугу не тым, хто цікавіцца музыкай, а тым, хто выкарыстоўвае канал у ролі сутэнёра.

Грошы зацьмілі розум не толькі некаторым рэкламным агенцтвам, грошы зацьмілі розум таму, хто зразумеў, што іх можна не зарабляць, іх можна "делать", "клепать", "зашибать", як хочаш, так і называй. Сэнс адзін – набіць кішэні і хадзіць з растапыранымі веерам пальцамі, маўляў, я ўмею жыць. Такому і няўцям, што ёсць іншыя каштоўнасці, дзеля чаго варта жыць.

Віктар ПАТАПЕНКА



**ЗАХАРАВА, 19**



## РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

**прымае да разгляду:**

***выдавецкія праекты самай шырокай тэматыкі;***

***выканае ўвесь спектр рэдакцыйна-выдавецкіх паслуг (ад рэдагавання рукапісу да выдання і распаўсюджвання кніжнай прадукцыі);***

***арганізуе рэкламу і прэзентацыю выданняў.***

**Вул. Захарава, 19, тэл.: 284-85-25.**

Выдавецкая ліцэнзія — ЛВ № 570 ад 23 кастрычніка 2002 года, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Пішыце на адрас: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"; EMAIL: gazeta_lim@tut.by.**

## «МАЛАДОСЦЬ» У ЧАЦВЁРТЫМ КВАРТАЛЕ

"Маладосць" працягвае адкрываць новыя імёны. У №№ 11—12 часопіса рэдакцыя мяркуе надрукаваць аповесць-фільмаслоў Людмілы Шчэрбы "Уладар рыб". Проза чацвёртага квартала будзе таксама прадстаўлена аповесцю ў гісторыях "Каханне" Уладзіміра Сцяпана, новымі апавяданнямі Янкі Сіпакова, Ганада Чарказяна, Алены Брава, п'есай Юрыя Станкевіча "Шэрыбрэндзі, ангел мой".

У паэтычным раздзеле часопіс прапануе новыя вершы Кастуся Жука, Віктара Шніпа, Уладзіміра Мазго, Віктара Яраца, Васіля Дэбіша, маладых аўтараў Ігара Сіроткіна, Вольгі Каржанец, Сяргея Дубовіка, Ганны Серахан і інш.

Цікавым абяцае быць і раздзел крытыкі, у якім прапануюцца развагі У. Навумовіча пра беларускую юнацкую аповесць, артыкул Г. Кісліцынай, у якім яна аналізуе новыя кнігі, што нядаўна пабачылі свет у розных выдавецтвах рэспублікі, рэцэнзіі Д. Серабракова, Т. Сівец і інш.

**Н. К.**

## «ПОЛЫМЯ» № 8

Пабачыў свет восьмы нумар часопіса "Полымя". Годна прадстаўлена проза раманам Валянціны Коўтун "Пакліканыя" і пачаткам рамана Зінаіды Дудзюк "Кола Сварога".

У цэнтры сюжэта другой кнігі рамана "Пакліканыя" лёс тых, хто разам з Полацкай ігуменняй Еўфрасінняй кіруецца паломніцкім шляхам у Іерусалім. І найперш гэта мянеская князёўна Вольга, князёўна — "Агненніца", што ўведзена ў вострасюжэтнае развіццё полацкіх падзей XII стагоддзя. А гэта і барацьба за вялікакняжы сталец, і баярскі замах на князя Расціслава, і наладжванне сувязей з суседнімі княствамі. У рамане пануе моцная стыхія любові да роднага краю. Другая сюжэтная лінія звязана з нялёгкім шляхам палачан праз Іудзейскую пустыню. Аповед завастраецца дзякуючы апісанням Галілейскага манастыра і сустрэчам паломнікаў са шматлікімі выпрабаваннямі і спакусамі.

"Кола Сварога" — раман паводле язычацкай міфалогіі, гэткага яшчэ ў беларускай (дый не толькі) літаратуры не было. Зноў на старонках часопіса паэты: Васіль Макарэвіч, Соф'я Шах, Наталля Русецкая, Браніслаў Спрынчан. Асобна хочацца адзначыць Рагнеда Малахоўскага, які выступіў у "Палымянскім дэбюце". У рубрыцы "Спадчына" Васіль Гадулька.

У другім сшытку, у рубрыках публіцыстыка, крытыка і літаратуразнаўства, культура мовы: Ніна Рыбік, Аркадзь Русецкі, Наталля Атрохава, Ганна Малько, Ларыса Раманава, Вера Хацкевіч.

І, нарэшце, "Дзядоўнік на Парнасе", дзе Кузьма Камель выступіў з сяброўскімі эпіграмамі на нашых знакамітых пісьменнікаў. Цікава і трапна!

**Віктар ПРАЎДЗІН**




На мінулым пасяджэнні "Літквартала", якое адбылося 4 верасня, сябрамі суполкі абмяркоўвалася творчасць Ігара Сіроткіна. У сваіх выступленнях асноўныя дакладчыкі Рагнед Малахоўскі, Віка Трэнас і Сяргей Патаранскі падрабязна разгледзеўшы вершы Ігара, прыйшлі да адной думкі — у асобе І. Сіроткіна мы маем паэта са сваім бачаннем свету, разуменнем гэтага свету і са сваім адметным паэтычным голасам. Гучалі і заўвагі, як звычайна шчырыя і добразычлівыя. У абмеркаванні паэзіі І. Сіроткіна прынялі ўдзел І. Клепікаў, З. Арцюх, А. Ключнікаў, М. Шамякіна, Т. Шлыковіч, І. Каляда, М. Кандратаў, Н. Кучмель, Г. Серахан, С. Дубовік, А. Бязлепкіна, Н. Капа, Д. Лосева і В. Гарністава.

У планах "Літквартала" абмеркаванне твораў Д. Лосевай, Р. Малахоўскага і І. Клепікава.

Пасяджэнні суполкі адбываюцца кожны чацвер у 18 гадзін у памяшканні рэдакцыі "Літаратуры і мастацтва".

# ПЕРАД ПРЫЙСЦЕМ

Крытыку, які насамрэч і бескарысна любіць літаратуру, і паэзію ў прыватнасці, дарма чакаць зваротнай любові ад саміх літаратараў і паэтаў. А паколькі ўсе мы — жыхары "камуналкі", то хоч—не хоч, а неяк трэба ўжывацца. Бо: *"Калі пісаць пра сучаснікаў, то колькасць знаёмых і сяброў неўпрыкмет змяншаецца і свет наўкол цябе пусцее, як буфет.*

*Пісаць пра якасць цяпер неяк не прынята, якасць ва ўсіх самая добрая.*

*— Кажы пра мяне, што хочаш, — гаварыў мне аднойчы памерлы ўжо вялікі паэт, — толькі не кажы, што мая апошняя кніжка горшая за папярэднюю."*

Але: *"Адчуванне няўдачы — у той жа час адчуванне маладое, харошае. Гэтак у юнацтве здаецца нам, што далей будзе лепш, яшчэ лепш і яшчэ цікавей. (...) Мне гаварыў Блок, што ад мяне першага ён пачуў сапраўдную гаворку пра паэзію, прафесійную гаворку, але тое, што я гавару, хоць і правільна, аднак ведаць паэту шкодна."*

Гэта цытаты з мудра-галавастага Барыса Шклоўскага. Я думаю, яны цікавыя самі па сабе, а паколькі бальшыня нашых літаратараў чужых кніжак амаль не чытае, то вартыя ўспаміну хоць бы для майстэрскага павучання, асабліва для маладых "ударнікаў" сціла і камп'ютэрнай клавіятуры.

Я бесперастанна сачу за нашай літаратурнай перыёдыкай і кніжнымі навінкамі, але ўпільнаваць вартую духоўнай "спажывы" "здабычу" ўдаецца ўсё радзей і цяжэй. Слова "цяжэй" тут прапісана мной наўмысна, паколькі і мне, як чытачу, неабходны інтэлектуальны рост, каб паспяваць за новымі павевамі і напрацоўкамі, а гэта, трэба прызнаць, не заўсёды атрымліваецца, таму многае даводзіцца "даганяць" інтуітыўна альбо "выязджаць" на сваім літаратурным вопыце...

Аднак "на практыцы" найчасцей сустракаешся з літаратурным "лікбезам". Нават не буду прыводзіць прыкладаў, бо гэта спрэс. І такое наша літаратурнае становішча, мне думаецца, ад таго, што паэты не "ўюць сваіх гнёздаў", не ствараюць свайго арыгінальнага мастацкага свету, а намагаюцца ўжыцца там, куды яны закінуты лёсам і адкуль стаміліся шукаць выйсце...

Са словам не трэба гуляцца. Яно не павінна ператварацца ні ў мячык, ні ў камень. Гэта небяспечна, і для тых, хто прамаўляе і піша, і для тых, хто чытае (кідае і ловіць). Слова не павінна губляць сваёй адпрыроднай самасці і аўтаноміі, і заўжды адлаведным чынам рэагаваць на нашы дачыненні з ім, каб, у рэшце рэшт, выявіцца чытачу ва ўсёй сваёй творчай першароднасці. І зачынацца яно павінна не на языку і не на вуснах, а на прыдыханні ўсёй нашай істоты перад тым ці пасля таго, як яе ўзбудзіць, натхніць і скалане пэўная праява нашага прыватнага альбо прылюднага жыцця. І слова тое павінна *апладніцца* ў нашай душы і *вынасіцца* пад сэрцам... Адсюль — таемства народзінаў сапраўднай Паэзіі, — той, бацькоў якой ніхто не ведае і не пытае.

*Ад сёння хай не знае ні адзін, —*
*Ці будзе ваша сонца ў вашым заўтра.*
*Ад сёння будзе ўсё, чаго вы варты,*
*Ад сёння я — Айцец і Дух, і Сын...*

Высокая паэзія даступная грэшнаму чалавеку якраз з той прычыны, што яна не з'уляецца носьбітам зямной ісціны. Таму і я, вось цяпер, пішу тое, што магу, а Павал Зьмітрук друкуе тое, што магчыма (вышэй узгадана цытата менавіта з яго верша "Перад прыйсцем")...

І яшчэ — вершы павінны займець свайго чытача і быць своечасова прачытанымі, каб не згубіцца ў хуткаплынным стыхійным часе. Паэт павінен быць *пазнаным* пры жыцці, каб яго паэзія была *прызнанай* пасмяротна. Я не ведаў і нават не чуў пра П. Зьмітрука, пакуль у нядаўнім "ЛіМе" (ад 29 жніўня 2003г.) не прачытаў вельмі самавітую і выбітную нізку яго вершаў. Яшчэ не ўсё там Паэзія, але ўжо ёсць сам Паэт. Хацелася б не памыліцца...

*І жыў — не жыў...*
*Дый як тут жыць, калі*
*Ёсць выбар толькі між бядой і горам.*
*І розум маю — за яго мне сорам,*
*І сілу маю — мне яна баліць...*

Пакуль "баліць" і "сорам" — у чалавеку жыве Паэзія... Працсей кажучы — сумленне. А гэта ўжо — выра к.

ЛеГал



# У РОДНЫМ КРАЮ ЁСЦЬ КРЫНІЦА...

***Як літаратар, я — двойчы народжаны. Пачынаў пісаць па-беларуску, падпісваўся, так бы мовіць, дзявочым прозвішчам — Л. Лявонаў. Потым перайшоў на рускую мову: служыў у Эстоніі, друкаваўся ў матроскай газеце "На вахте" і ў больш самавітым выданні "Страж Балтики". Затым былі "Знамя юности", "Сельская газета", дзе працаваў спецкарэспандэнтам. І толькі на 33-м годзе жыцця ўзяў псеўданім Леанід Левановіч, блаславёны Іванам Мележам. Гэта і сталася маім другім нараджэннем. Тады ж прыйшло і разуменне, што пісаць трэба на роднай мове.***

Услед за пачынальнікам рубрыкі Яўгенам Міклашэўскім задаю сабе пытанне: чаму я, хлапчук з глухой вёскі на беразе Бесядзі, сын абсалютна непісьменнай маці і малапісьменнага бацькі (тры класы царкоўнапрыходскай школы) раптоўна адчуў творчы сверб і напісанае захацелася адаслаць у рэдакцыю?

Але спярша было іншае — была задума. Першае творчае парыванне. Пасвіў бычка каля вялізнага калгаснага гумна, збудаванага пасля вайны. Меўся там конны прывад, на драўляных "крылах" якога прыемна было пакатацца, меліся так, еўня. І было там птушынае царства. Аднойчы назіраў за сямейкай шчыглоў: яны будавалі пад саламянаю страхою свой дамок. Потым у гняздзе з'явіліся пяшчотна-блакітныя, з дробным карычняватым рабаціннем, яечкі. А праз пэўны час — голыя жаўтаротыя птушаняты.

Аднаго разу амаль паўдня назіраў, як шчыглы кармілі сваіх дзяцей. Прыгнаў дамоў бычка і адчуў вялікае жаданне занатаваць усё ўбачанае.

Драўляная вучнёўская ручка з пяром №86 знайшлася, а вось паперыны не было. У тыя гады бацька працаваў рахункаводам, на этажэрцы ляжаў стос шэра-зялёных блакноцікаў — працоўныя кніжкі калгасніка. Разгарнуў адну з іх і напісаў: "Шчыглы" (апавесць). Перад гэтым прачытаў аповесць Якуба Коласа "На прасторах жыцця", якая моцна ўразіла. Нават захацелася пайсці ў вёску Забор'е (у аповесці — Заборцы, я падумаў, што аўтар трохі змяніў назву паселішча) і адшукаць там Сцёпку Баруту. Тое, што Забор'е знаходзіцца ў Бранскай вобласці, я тагачасны пяцікласнік, пад увагу не ўзяў. Ведаў, што ў Забор'е на Пятра нашы жанчыны хадзілі на кірмаш.

Дык вось, чырвоным чарнілам накрэмзаў назву, вызначыў жанр, напісаў колькі радкоў, як птушкі будавалі гняздо, і адклаў. Адклаў вельмі надоўга. Ажно на дваццаць гадоў з гакам.

А першая публікацыя з'явілася летам 1954 у Касцюковіцкай раённай газеце. Скончыўшы першы курс Магілёўскага культасветвучылішча, куды паступіў пасля сямігодкі, прыехаў у родную вёску. Іду купацца на Бесядзь і не пазнаю навакольля: поплаў узараны, лапушыцца кукуруза, між сцяблін разгульваюць свінні. І так штодня. Сапсавалі поплаў, уклалі гэтульки сродкаў, думаў я, а пасевы ніхто не пільнуе. Душа камсамольскага актывіста не магла стрываць гэткую безгаспадарчасць, напісаў ліст у раёнку. Як зараз памятаю той дзень: з хваляваннем разгортваю газету і не веру сваім вачам — допіс мой надрукаваны, уніз е пад ім буйнымі літарамі маё прозвішча. Сэрца затахкала.

Невялікая публікацыя мела гучны рэзананс: старшыню калгаса выклікалі на бюро райкама і закаталі суровую вымову. А мяне вяскоўцы ахрысцілі "карэспандэнтам "Правды"". Мусіць, жаданне змагацца за справядлівасць, вяваць з недахопамі прымусілі мяне праз паўгода напісаць у Магілёўскую абласную газету "За радзіму" фельетон "Расольнік з пячэннем", у якім я раскрытыкаваў сталоўку культасветвучылішча. Гэтая публікацыя яшчэ мацней перакапала ў сіле друкаванага слова. Фельетон апублікавалі ў студзені 1955-а, за лета ў сталоўцы зрабілі капітальны рамонт — памяшканне было не пазнаць, пашырылі асартымент страў, заўсёды меўся хлеб і да хлеба.

Адказ на пытанне, чаму я ўзяўся за пяро, напрошваецца сам сабою: жаданне выкараняць недахопы, змагацца за справядлівасць. Але адказ гэты не ёсць поўны. І вось доказ. Зімою 1956-а быў я на практыцы ў вёсцы Пішчалава пад Оршаю. Пасядзеў на калгасным справаздачным сходзе, а тамтэйшы калгас імя Кірава быў даволі заможны, паслухаў выступоўцаў і закарцела напісаць пра ўсё пачутае. Задумана — зроблена. А на дварэ стаяў люты. Усчалася завея. Але я пайшоў пешкі за пяць вёрст у Оршу, адшукаў рэдакцыю. Памятаю ўсё да драбніц, нібы тое было ўчора. Сталага веку кабета ў акулярах перачытала мае старонкі, пільна зірнула з-пад акуляраў на жаўтаротага аўтара:

— Ну, цікава. Ёсць трапныя назіранні. А трошкі дапоўніць вы не змаглі б? Яшчэ б пару прозвішчаў...

— Магу, —упэўнена адказаў я, накатаў яшчэ паўстаронкі.

І неўзабаве ўбачыў у газеце вялікі артыкул "Да новых поспехаў" — загаловак далі ў рэдакцыі. Пасля гэтай публікацыі я канчаткова і невылечна захварэў на "графаманію". А рухавіком творчага працэсу было і ёсць жаданне падзяліцца радасцю ад убачанага, перажытага, зведанага.

Пасля вучылішча прыехаў па накіраванні ў Дзяржынск — мне болей даспадобы гістарычнае найменне мястэчка: Койданава. Пачаў працаваць інструктарам раённага Дома культуры. І, вядома ж, стаў актыўна супрацоўнічаць з раённай газетай. Дзякуючы гэтаму я і паступіў на завочнае аддзяленне журфака Белдзяржуніверсітэта. Праўда, усё было не так проста. Кабета ў прыёмнай камісіі адмовілася ўзяць мае дакументы, маўляў, я іду не па профілі, мне трэба паступаць у Інстытут культуры. Я запярэчыў: ёсць даведка раённай газеты, што я актыўны няштатны карэспандэнт.

— Ой, не ведаю, што з вамі рабіць. Пайду да адказнага сакратара.

На шчасце, адказны сакратар не быў фармалістам, дазволіў прыняць мае паперы. А я да гэтага часу ўдзячны Фёкле Аўціхаўне Гук, тагачаснаму рэдактару Дзяржынскай раёнкі, за яе благаславенне. Яна прыхільна ставілася да маіх кароткіх, сціплых публікацый, падбадзёрвала, хваліла. Дарэчы, імя Пёкла даволі распаўсюджанае ў Прыбяседдзі, дзейнічаюць Пёклы і ў маіх раманах.



Я ўжо згадваў пра супрацоўніцтва з флоцкімі газетамі. У свой час гэта мне вельмі дапамагло. Сталася так, што пасля першага курса мяне прызвалі на флот. Служыць давялося на Балтыцы, спярша ў Таліне, а потым каля Балтыйска. Я ўзяў з сабою заліковую кніжку, у якой найбольш былі пяцёркі, і здуру даў сабе клятву, што буду працягваць вучобу. Не ведаў небарака, што салдатам і матросам тэрміновай службы завочная вучоба забаронена. Але раз пакляўся, мусіш выконваць, змагацца. І я нелегальна скончыў тры курсы ўніверсітэта.

І дапамаглі газетныя публікацыі. Праз іх займеў аўтарытэт у сваіх камандзіраў, дарэчы былі і сціплыя ганарары, бо савецкая дзяржава плаціла тры рублі на месяц. Першы водпуск мне далі "по поощрению", другі — сем сутак "по семейному положению", хоць летняя сесія доўжылася цэлы месяц. Давялося за пяць дзён здаць шэсць экзаменаў і залікаў, заехаў дамоў, у Касцюковіцкім райваенкамаце адзначыць паперы. А потым я ўжо ездзіў без праязных і сутачных. Заўсёды буду ўдзячны нампаліту экіпажа Анатолю Іванавічу Мазуру, украінцу па нацыянальнасці, які гаварыў: "Калі б я меў вышэйшую адукацыю, я б ужо адміралам хадзіў... Так што, я табе памагу. Хай мяне павесяць за ядры, а на сесію паедзеш".

Цяпер я часам думаю: колькі добрых, спагадных людзей трапляліся на маёй жыццёвай дарозе! Думаецца і пра тое, ці варта было гэтак высільвацца? Служыў бы, як усе людзі, а то



запісваўся ў звальненне, выходзіў у горад на паўгадзіны "пачытаць афішы", вяртаўся і садзіўся за кантрольныя, бо да 24-х ніхто не меў права мяне "кантаваць". А ў матроскім парку чакала дзяўчына, якой мінулы раз прызначыў спатканне. Праўду кажуць у народзе: парою сена касяць, усё добра ў свой час... І на спатканні хадзіць — таксама.

Служба на флоце дала мне багаты жыццёвы матэрыял, усё зведанае, перажытае легла ў аснову аповесці "Якар надзеі", але гэта здарылася праз шмат гадоў.

А першае маё апавяданне з'явілася на старонках "Советской Белоруссии" 17 красавіка 1963-а. І паспрыяў гэтаму тагачасны рэдактар газеты Барыс Паўлёнак, які быў і кіраўніком маёй дыпломнай работы.

Да майго другога нараджэння, да першай публікацыі Л. Левановіча заставалася яшчэ восем гадоў.

Дыпломны праект у мяне быў творчы: сабраў замалёўкі, карэспандэнцыі, нарысы, напісаў тэарэтычны ўступ. Назву даў ёмістую: "Шчасце і радасць — у працы". Я і зараз лічу гэтую выснову слушнай. Любімы занятак дае багата радасці, сапраўднае шчасце — займацца любімай справай. Пра гэта міжволі думаецца, калі сею жыта ці грэчку, сяку дровы, даглядаю пчол. Ну і трохі пішу...

Пасля універсітэта было шмат газетных публікацый. У часопісе "Нёман" надрукаваў тры праблемна-аналітычныя нарысы: "Беларускі мёд", "Сад ты наш бацюхна", "Другі хлеб" — пра бульбу і бульбаводаў". Пазней іх пералапаціў, падмаладзіў, перапісаў па-беларуску, і яны склалі першую кніжку, падпісаную псеўдонімам, — "зялёны трохкутнік". А яшчэ раней была невялікая кніжачка "Гаспадар зямлі", падпісаная сціпла — Л. Лявонаў: нарыс пра Героя Працы, аграномa з Гродзеншчыны Марыю Карповіч.

А першыя два апавяданні на роднай мове з'явіліся на старонках "ЛіМа" ў 1971 годзе. Яны і засведчылі маё другое нараджэнне. Праўда, не абышлося без кур'ёзу.

Пасля выхаду штотыднёвіка сустрэў мяне зямляк Іван Чыгрынаў у цемнаватым палымянска-лімаўскім калідоры. Ён тады працаваў у "Полымі", а я ў "ЛіМе", павіншаваў з апавяданнямі, ухваліў псеўданім:

— Даўно трэ было пісаць на роднай мове. Між іншым, загаловак апавядання варта памяняць. "Дзятлава песня" болей па-беларуску, чым "Песня дзятла". А фінал тваёй "Брытвы" не зусім выразны. Ці ты не дадумаў, ці свядома пакінуў фінал адкрытым?

Я расказаў, што апавяданне надрукавалі без канцоўкі, яна згубілася. "ЛіМ" тады выходзіў двума сшыткамі, і заканчэнне апавядання перанеслі з восьмай старонкі ў другі сшытак і... згубілі. Не ведаю, чый то быў недагляд, але "Брытва" выйшла без канцоўкі.

Пачуўшы пра гэтую гісторыю і пра мае перажыванне праз яе, Чыгрынаў суцешыў:

— Не бядуй. У творчай справе здараецца яшчэ не тое. Значыць, пісаць табе і друкавацца без канца...

Я быў удзячны старэйшаму таварышу за падтрымку, пагадзіўся з ягонымі заўвагамі, але загаловак апавядання не памяняў: чамусьці захацелася пакінуць не зусім правільны варыянт. Такім яно і выйшла ў першым зборніку прозы "Мадонна з кветкаю". Затое "Брытва" займела сваю канцоўку.

На гэтым можна паставіць кропку, але просяцца некаторыя развагі. Мне здаецца, рубрыка "Мая першая публікацыя" запатрабаваная чытачом. У апошнія гады ў нашу літаратуру прыйшло нямала таленавітых маладых паэтаў, празаікаў. Пад гэтай рубрыкай мае права выступіць не толькі дзед накшталт мяне, я ўжо маю двух унукаўшкольнікаў, а і малады літаратар. Бо першая публікацыя, як першы пацалунак і першае спатканне, ёсць у кожнага. І шлях да яе ў кожнага свой.

Гадоў пятнаццаць таму рэдактар выдавецтва "Мастацкая літаратура" Пятро Шаўцоў збіраў матэрыялы для новай кнігі пісьменніцкіх аўтабіяграфій. Два ранейшыя такія выданні чытач ведае. Папрасіў і ў мяне аўтабіяграфію, я даў яму свой жыццяпіс, як і належыць, у двух экземплярах. Але кніга так і не выйшла, невядомы і лёс яе рукапісу. У сваім раскіданым архіве я не знайшоў таго "жыццяпісу", таму нанава згадаў пра першыя публікацыі.

І апошняе. Мая родная вёска Клеявічы зараз у чарнобыльскай зоне, жыхароў адсялілі, хаты пагнілі, струхлелі, даўно разабралі тое гумно, дзе вяліся шчыглы. Зарос дзядоўнікам прыбяседскі поплаў, дзе некалі свінні вынішчалі з карэннем "хрушчоўскую" кукурузу. Зарасла і крыніца, што бруілася ў канцы нашых сотак. Але ў маёй памяці крыніца тая не высахне ніколі.

**Леанід ЛЕВАНОВІЧ**

**P.S. 14 верасня Леаніду Левановічу спаўняецца 65 гадоў. Віншуючы Леаніда Кірэевіча з юбілеем, жадаем яму і надалей творчага неспакою і плёну.**

КРЫТЫКА

# «БАБЧЫН» — ПАЭТЫЧНАЯ БІЯГРАФІЯ ЗЕМЛЯКОЎ

Зборнік Міколы Мятліцкага "Бабчын" з падзагалоўкам "Кніга жыцця", адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы за 1998 год, з'явіўся на ніве беларускай літаратуры ў складаны час перабудовы сацыяльна-палітычных асноў грамадства былога СССР, подыху чарнобыльскага ліхалецця, ачышчэння ад накіпу ідэалагічных напластаванняў розных часоў і вяртання народа да сваіх гістарычных каранёў.

Зборнік "Бабчын" — паэтычная біяграфія землякоў М. Мятліцкага і адначасова помнік-мемарыял мужным, мудрым, працавітым жыхарам Прыпяцкага рэгіёна.

Споведзь М. Мятліцкага абуджае ў нашай памяці славутую паэтычную споведзь Якуба Коласа "...мой родны кут, як ты мне мілы, забыць цябе не маю сілы...". Народжаны яны былі блізкімі пачуццямі любові да роднага краю і вымушаным расстаннем з ім. Зборнік "Бабчын" шматпраблемны, а разглядаюцца яны ў двух часавых вымярэннях: дачарнобыльскім і паслячарнобыльскім часе.

У панарамным плане з гістарычнымі падсветкамі падае аўтар ландшафт вёскі, далёкіх і блізкіх яе ваколіц. Край прысутнічае і ў назвах рэк, азёр, балот, лугоў, палёў, лясоў, у сюжэтных біяграфіях землякоў.

Храмам Божым, упрыгожаным пейзажнымі "святымі фрэскамі", паўстае ў зрокавай памяці паэта родная вёска. Бярозавыя кушчы-пералескі, афарбаваныя залатым восеньскім колерам, выклікаюць у лірычнага героя пачуццё царкоўнай святочнай урачыстасці.

Сведкамі гістарычных падзей у вялікім пейзажным прыпяцкім пантэоне выступаюць знакавыя вобразы дрэў: бяроз, дубоў, грушы-дзічкі "...трывушчай і калючай, на горкую памяць балючай...", зараснікі чырвонай лазы. Пейзажныя вобразы М. Мятліцкага добра стасуюцца да тыпалагічных параўнанняў з пейзажнымі сімваламі паэзіі Якуба Коласа (дубы, сосны, хвоі, грушы-дзічкі).

Вялікую ўвагу надае паэт бытавым і рэчавым дэталям вёскі Бабчын дачарнобыльскай пары. Так, у нізцы вершаў "Згадкі ў хаце" М. Мятліцкі пазнаёміў чытача з тыповай вясковай сям'ёю, у якой ведалі цану бохана свежага хлеба, разумелі смак солі. Эпіцэнтрам сялянскай хаты спакон веку быў стол, што стаяў бліжэй да кута з абразамі. Пасля чарнобыльскай бяды стол першым сустрэў лірычнага героя, які "...анічога не прыхапіў, калі выбіраўся ў гасціны...". Асірацелы, пусты, пакрыты пылам цэзію стол "пружыцца верхам, гатовым сарвацца з крэпін, каб абурыцца гневам...".

Стол — захавальнік дзённіка працоўнай сям'і. Яго дошкі памятаюць цяпло маміных далоняў, патрэсканых ад сіверу і гаспадарчай працы, што "апускаліся, як дзве птушкі; цвёрдыя зліткі бацькавых кулакоў"...

Шматзначнай адухоўленай асобай вясковай хаты з'яўляецца печ. Яна нагадала лірычнаму герою аб радасцях і згрызотах, што ўзнікалі паміж ачагом цяпла і дастатку і гаспадыняй, а падставай былі сырыя дровы, што шыпелі злосцю вільгаці.

*Кіпелі-булькалі чыгуны,*
*з піскам сквірчэла свежаніна*
*ў глыбокай патэльні,*
*санцашчокія дранікі*
*саскоквалі на ручнік —*
*печ жарка ўздыхала,*
*усё адно вінавацілася*
*перад мамай.*

Малюнак гэты, як і іншыя з жытла бацькоў паэта Мятліцкага, выклікае тыпалагічныя параўнанні з Коласаўскімі мастацкімі ўвасабленнямі сялянскага побыту ў "Новай зямлі" (раздзелы "Раніца ў нядзельку", "Пярэбары", "Падгляд пчол" і інш.).

У зборніку выразна праступае подых часу, элементы сацыяльнай структуры грамадства, паўстаюць носьбіты пэўных сацыяльных груп, службовых іерархій. Прыкладам можа быць верш "Канапа".

Малодшы брат гаспадара хаты — старшыня бярозаўскі завітаў да радні і заняў сваё пачэснае месца на канапе, прыспешыла з пасёлка цётка са сваімі гаспадарчымі клопатамі, "сініцай трапечацца ўжо яе постаць паміж падлакотнікаў. Роспачны, цененькі галасок: "Сена ці хопіць. Вот, кінулася ў пазыку!.." Знайшоў адпачынак на канапе традыцыйны ўздвіжанскага свята госць варацецкі Кез. Кожны з "сяброў" канапы, дзякуючы майстэрству аўтара (дэталі, алітэрацыі, адухоўленню, ускоснай характарыстыцы), праз іх судакрананне з ёю пластычна паўстае перад чытачом. Час дзеяння ў вершы нагадвае спакойную плынь Прыпяці, у якой ёсць і мелі, і віры. Кульмінацыя твора ў рэакцыі канапы на сустрэчу з лірычным героем пасля падзей чарнобыльскай трагедыі.

*...Змёўшы слой пылу,*
*сядаю.*
*Канапа крэкнула дошкамі,*
*як бы войкнула ад здзіўлення:*
*першы пасядзелец*
*за столькі гадоў!*
*Не падазрае нават,*
*што ўсланая*
*покрывам радыяцыі...*

Вялікую ўвагу надае Мятліцкі мастацкаму вобразу дарог. Яны ўвасабляюць гістарычны шлях, які злучыў бабчынцаў з вялікім светам. Дарогі напоўнены філасофскім роздумам аўтара пра гістарычныя падзеі часу, пра лёс землякоў. У вершы "Чумацкі шлях" Мятліцкі падае філасофскае абагульненне шляху чалавека на зямлі. Адухоўлены аўтарам бабчынскі чумацкі шлях багата пачуў ад падарожнікаў гістарычных паэм, балад, споведзяў пра пошукі землякамі паэта долі, волі, шчасця.

Дарога ў вершах Мятліцкага — асоба трагічнага плану. Яе фарбы шэрыя, а гукі цягучыя. На ёй "стоены морак вайны... Цэдзяць дым каміны..." Знешняй зрокавай дэталлю аўтар тлумачыць прычыны трагізму, раскрывае падзеі мінулай вайны. Чумацкі шлях і старасвецкія беларускія шляхі-сведкі, якія захоўваюць страшныя згадкі: малюнкі часу Вялікай Айчыннай вайны.

*Гоняць шашою людзей, як статак:*
*Дзяцей партызан,*
*Партызанскіх матак.*
*На бакавіне шашы над ровам*
*Аўтаматы выплюнуць кулі.*
*Хлопчык сямігадовы*
*Горнецца да матулі.*
*Ён з вечна жывой душой*
*Вернецца гэтай шашой.*
*Ён будзе хадзіць, расстраляны,*
*Па снах маленства,*
*Пудзячы іх да шаленства,*
*Суніц прыгаршчы на паляны*
*Кіне сярод бароў,*
*Як сваю кроў.*
*Сэрца маё апаліць*
*Ён, Зелянкоўскі Паўлік.*

Паэтычная дарога Мятліцкага за доўгія гады набыла свой пароль: "—-Куды? — пыталіся. — Па соль". — адказвалі. У мірны час пароль быў сімвалам братняе дружбы, у векапомныя дні ваеннага ліхалецця стаў паролем выратавання ад знішчэння ў печах-душагубках Трасцянца, Майданака, Бухенвальда, што збудавалі ў Еўропе фашысты.

У час вайны чумацкі шлях яднаў сілы беларускіх, украінскіх, польскіх народных мсціўцаў.

Палескія дарогі прывялі савецкае воінства да свята Перамогі над нямецкім фашызмам.

Палескай шашою ў дні аднаўлення народнай гаспадаркі завітаў у родныя мясціны Міколы Мятліцкага былы камсамольскі лідэр, а затым дзяржаўны дзеяч БССР Мазураў Кірыл Трафімавіч. Дзякуючы яго асабістым клопатам, была закладзена новая вуліца вёскі Бабчын на месцы спаленых хат. У народзе яна атрымала назву Мазураўка. Фактычны матэрыял абагаціў зборнік святлом і адзнакамі гістарызму, надаў матэрыялу эпічнасць, пэўную лірычнасць і эмацыянальнасць.

Дарога ў зборніку з'яўляецца сюжэтнай ніткай, якую паслядоўна аўтар наматвае ў клубок падзей, біяграфій.

У дзённіку дачарнобыльскага часу Мятліцкі пазнаёміў чытача з сумленнымі, уражлівымі, спакойнымі працаўнікамі палескай вёскі. Урочышчы Малая і Вялікая Пель, былінная Прыпяць, якая на хвалях сваіх несла свету звесткі аб прыгожым суладдзі людзей і прыроды, аб зямных іх радасцях, клопатах і намерах.

Зборнік населены вялікай колькасцю асоб. Паэт засяроджвае ўвагу на асобных дэталях, якія характарызуюць індывідуальнае аблічча кожнага. Так, у час вясковай радоўкі-чаргі пасвіць кароў — герой верша "Пастух" пасцігаў характары, псіхалогію сваіх аднавяскоўцаў. Гаспадар Шаўлоўскі Васіль вітаў падпаска і наперад дзячыў за клопат пра яго "белалобую", "торкаў нейкі ласунак у руку".

Аб'ядноўвае членаў бабчынскай талакі адказнае стаўленне да працоўных абавязкаў. Цёплымі словамі характарызуе паэт каваля Якуба і цеслю Антося, рукамі якіх ствараліся цуды народнага промыслу. Для народных умельцаў "у сталярні і кузні дні весялей беглі, клапотна жылося" — адзначае аўтар. Праца для большасці вяскоўцаў была сэнсам жыцця, сродкам трываласці на зямлі. Так, Макрэна з "фартуха снедала — хапала штось на хаду. Макрэна жыла і ведала: бягу — усё будзе ў ладу!"

*Дзядзькі на зрубах — цеслі слынныя,*
*Паўстаў з іх кожны дужым волатам,*
*Вачэй пагляды сакаліныя,*
*Лязо сякеры грае золатам. —*

такі агульны партрэт "трудаголікаў" бабчынскіх.

Для гераіні "Балады пра Варын агарод" праца таксама была эліксірам жыцця.

М. Мятліцкі не прычэсвае сваіх герояў адным грабеньчыкам на адзін манер. Так, сярод землякоў было багата заўзятых апантаных грыбнікоў. Іх аб'ядноўвае не спажывецкае, а святое стаўленне да дароў прыроды. Бабуля Антося не звяртала ўвагі на стан здароўя, "час ад работы старая лучыла" і "тэпала сцежкай у лес за балота", адчыняла ўнуку скарбніцы і таямніцы прыроды, вучыла адганяць ад зямлі сілы нячыстыя, над кожным паднятым паганым грыбам утварала замову: "Згінь ты, нячыстая! Смерці прапажа!" Суседка Манька таксама валодала таямніцамі грыбовішч, але трымала іх ад людзей у сакрэце і, відаць, не ад пачуцця ўласніцкіх інтарэсаў, а хутчэй ад пачуцця захавання "прафесійнай" годнасці, сямейных сакрэтаў.

У старэйшага пакалення бабчынцаў трывалая сувязь з Космасам. Яна дзейнічае ў мірнай працы, калі хлебароб ускладвае надзеі на сілы ўсявышнія. Да Бога за ратункам звяртаюцца землякі ў гадзіну Вялікай Айчыннай вайны, у час чарнобыльскай навалы першая скарга была "Высокаму Небу". У героях зборніка выдатна спалучаюцца класічнае — Богам дадзенае і генетычнае — узятае ад продкаў і агульначалавечае.

Трагедыю Чарнобыля трывушчы беларускі народ сустрэў з пачуццём паняверкі. "...Ставала веры і трывучай сілы..." "Пяць месяцаў у цэзіевым брудзе жылі маёй гаротнай вёскі людзі..." Людзі па прыкладзе прыродных шчырніц—мурашак, птушак, пчол — ратавалі зямлю, прасілі, "каб як мяльчэй капалі двор ля хаты салдацкія увішныя лапаты..." Спадзяваліся на сваё чалавечае сельскагаспадарчае знахарства, "садзілі бульбу і палолі грады, былі шчаўіне, сырадою рады..." Філасофская іх мудрасць пераконвае бабчынцаў: "Жывое усё, што прыходзіць на свет, усяк пратэстуе атрутнаму злу..." Чалавек чэрпае сілы аптымізму ў прыроды (вершы "Пчала", "Ластаўкі", "Жартуюць леснікі..."), не апускае рукі, ратуе, што можна, а прырода ў сваю чаргу дапамагае яму справіцца з няшчасцем. Знакавым вобразам-сімвалам выратавання з'яўляецца ў зборніку Пчала. Яна сваёю песняю працоўнай шчырніцы лашчыць слых, пачастункам-мёдам ратуе параненую душу, ладам жыцця выклікае міласць Божую.

Лірычны герой ратунак ад навалы чакае ад Космасу, бо неба — "небам засталося". Вера ў неба жывое, у роднае неба падмацоўваецца шчодраю працаю сонца, якое штодзень устае над "немасцю". Касмічны былінны пафас пранізвае верш "Астыне пыл":

*Мая зямля, адпетая бядой!*
*Над немасцю тваёй устала сонца.*
*Каўтае вецер з даўкім болем*
*стронцый*
*І запівае мёртваю вадой*
*Пагаслых, ператручаных крыніц.*
*Зямля мая, вышэй ты ўсіх званіц!*

Беларуская літаратура пачатку і канца XX стагоддзя азнаменавалася шэрагам непаўторных эпічных твораў. Сярод іх неабходна адзначыць зборнік Міколы Мятліцкага "Бабчын". Кніга нарадзілася ў складаны час перабудовы асноў сацыяльна-палітычнай сістэмы грамадства. Мікола Мятліцкі стварыў помнік-мемарыял беларусам Прыпяцкага рэгіёна, землякам палескага краю, уславіў іх крыштальны духоўны воблік, шматпакутны працоўны шлях, нязгасную веру ў сілу зямлі, мудрасць прыроды, непарыўную сувязь з касмічным пантэонам свету.

**Вольга КАЗЛОВА**

# ПАГЛЫБЛЯЮЦЦА ЛІТАРАТУРНЫЯ СУВЯЗІ

З года ў год усё часцей і часцей у перыядычным друку Рэспублікі Паўднёвая Асецiя друкуюцца творы беларускіх пісьменнікаў.

У шостым (кастрычніцкім) нумары 2002 года літаратурна-мастацкага часопіса "Фідзіуаг" (орган Саюза пісьменнікаў Рэспублікі Паўднёвая Асецiя) змешчаны партрэт, вершы і артыкул пра жыццё і творчасць паэта-перакладчыка Генадзя Кляўко.

Сябра і перакладчык асецінскіх паэтаў Г. Кляўко ўпершыню пераклаў на беларускую мову вядомую кнігу асецінскага паэта Коста Хетагурава "Асецінскую ліру" (выдавецтва "Мастацкая літаратура", 1986 г.) і анталогію асецінскай паэзіі (выдавецтва "Беларусь", 1975 г.). Апроч гэтых кніг, ён перакладаў вершы сучасных асецінскіх паэтаў. Артыкул пра жыццё і літаратурную дзейнасць Г. Кляўко напісаў вядомы асецінскі паэт, галоўны рэдактар часопіса "Фідзіуаг" Герсан Кодалаеў. Свой верш, прысвечаны памяці Г. Кляўко, у часопісе змясціў паэт Аляксандр Пухаеў.

У студзеньскім нумары (2003 г.) надрукаваны вершы лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Янкі Сіпакова ў перакладзе паэта Фелікса Пліева. А ў партфелі рэдакцыі часопіса "Фідзіуаг" ёсць творы і іншых беларускіх паэтаў і празаікаў.

Мікола ГРОДНЕЎ

# ВЁСКІ «ЗНІКЛІ», ПЫТАННІ ЗАСТАЛІСЯ

У нашай краіне нямала мясцін асабліва дарагіх кожнаму беларусу. Гэта населеныя пункты, звязаныя з імёнамі выдатных дзеячаў навукі, культуры, з імёнамі класікаў літаратуры. Вязынка непарыўна звязана з імем Янкі Купалы, Мікалаеўшчына — з імем Якуба Коласа. Імя Кандрата Крапівы неаддзельна ад назвы Нізок, імя Івана Мележа — ад назвы Глінішча, імя Максіма Танка — ад назвы Пількаўшчына. На Мсціслаўшчыне з імем выдатнага творцы Максіма Гарэцкага звязана назва вёскі Малая Багацькаўка. Дакладней, былой вёскі.

Рашэннем Магілёўскага аблвыканкама ад 30 лістапада 1976 года № 473 вёска Малая Багацькаўка "ліквідавана". Не, пабудоў не разбіралі, не перавозілі. Проста ў пастанове запісалі, што вёска Малая Багацькаўка злілася з вёскай Вялікая Багацькаўка. Таму іменаваць новаўтварэнне назвай Багацькаўка. З дзвюх вёсак "утварылі" адну.

Ёсць у Мсціслаўскім раёне невялікая вёсачка Ануфрыева са знакамітым у мінулым Ануфрыеўскім манастыром. Ад яго як гістарычная рэліквія захавалася царква — аднанефавы храм з паўцыркулярнай абсідай і высокай пяціяруснай вежай-званніцай. У гэтай вёскі імя наогул адабралі, прыліўшы яе да вёскі Сялец. Аналагічным чынам "ліквідавана" вёска Астрэйкавічы, прылітая да меншай па памерах вёскі Міцькаўшчына.

Следам за аблвыканкамаўскай пастановай пайшлі ўкладальнікі раённай кнігі "Памяць". Загінуўшыя з вёсак Вялікая Багацькаўка і Малая Багацькаўка пададзены ў агульным спісе, хоць адны з іх нарадзіліся і жылі ў Вялікай, а другія ў Малой Багацькаўцы. Дарэчы,і загінулі як ураджэнцы розных вёсак.

Такое "аб'яднанне" вёсак адбылося па неабдуманасці. Пры неабходнасці захоўваць назвы, звязаныя з айчыннай гісторыяй. Таму вельмі добра было б, каб Магілёўскі аблвыканкам адмяніў вышэйназваную недарэчную пастанову аб зліцці вёсак і фактычнай ліквідацыі малой радзімы класіка нашай літаратуры Максіма Гарэцкага.

Георгій ЮРЧАНКА



Святлана КАРОБКІНА



# КЕЛІХ, АМФАРА, ЗБАНОК...

•

*Пісьмовага стала яшчэ не маю,*
*І аб настольнай лямпе мару зноў.*
*Параненая, той крывёй сцякаю,*
*Што бударажыць спевы салаўёў...*
*Разбітае гняздо маё пусцее,*
*Падацца мне куды сярод начы?*
*Палын над дахам зрушаным*
*гусцее,*
*Ад яблынак і груш наўкол карчы...*
*Яны ўрасталі ў сэрца каранямі,*
*Усе яблынькі, усе вішанькі мае!*
*О, любыя, як развітацца з вамі,*
*Радзімныя, — крыві ўжо не стае.*
*Я — абяскроўленая ўжо без вас,*
*здаецца.*
*Дык пра які пісьмовы*
*марыць стол,*
*Калі на тых карчах распята*
*сэрца,*
*Калі збівае зоркі злыдняў*
*кол...*

•

*Атруціла вёска палынамі,*
*Закавала ў панцыр забыцця.*
*Не магу сустрэцца, любы, з вамі,*
*А без вас няма ў мяне жыцця!*

*О, каб уцячы адсюль у горад*
*І сустрэць Вас там, сярод людзей,*
*Да якіх шчэ не дабраўся голад,*
*Да якіх не прытуліўся холад, —*
*Дык і мне зрабілася б лягчэй...*

•

*Мне быць гетэраю?.. О, не...*
*Антычны век засыпан пылам,*
*Ён на акна самотным шкле,*
*Магічны росчырк ставіць*
*крыллем.*
*На міг адзіны!.. Толькі мы*
*Аўтограф бы не заўважаем,*
*Гартаем пыльныя тамы —*
*Сябе ў касмічны час вяртаем,*
*Не ведаючы — хто ўсё ж мы,*
*За вокнамі сваё турмы,*
*Дзе вартаўнік сляпы і хворы*
*Нас сцеражэ ўжо век каторы...*

•

У ВЯНОК
Максіму БАГДАНОВІЧУ

*Расцвіла тужліва вераніка...*
*Я цябе ўспомніла, Максім, —*
*Мне здалося ты мяне паклікаў*
*Паляцець да чайных руж,*
*у Крым...*
*Пакупацца у салёным моры,*
*Боль хваробы выкінуць на дно,*
*Ад анёльскіх крыл тваіх*
*з сафоры*
*Каштаваць зялёнае віно...*

•

*Віно кахання горкае,*
*Салодкае віно,*
*Да дна апошняй кропляю*
*Чароўнае яно...*

*Яго не выпіць раптам,*
*Каб келіх зноў разбіць.*
*Агонь душы прымоўклы*
*У час любві гарыць...*

•

*Ад адзіноты можна звар'яцець,*
*Павесіцца, ці нават, атруціцца...*
*О, Божа, дай мне розум зразумець,*
*Павінна дзе цяпер*
*душа гняздзіцца.*

*Дапамажы туды мне даляцець,*
*Дзе ў амфарах гліняных Дыяніса,*
*Даўно віно пастаўлена, старэць,*
*Пад варту маладога кіпарыса...*

•

ПАВОДЛЕ НАРОДНАГА

*Келіх, амфара, збанок —*
*Вось пітво любові...*
*Час выкоўвае замок,*
*Павесіць на Слове.*
*Як жа зразумееш ты,*
*Што кахаю, — любы?*
*У келіх падаюць кветы —*
*П'ём пялёсткі згубы...*
*З амфары віно любві*
*П'ём і не нап'ёмся,*
*З-пад нябеснай вышыні*
*Птушкамі смяёмся.*
*Робім у збанку гнязда*
*З чырвонае гліны,*
*Не дазнаецца ніхто*
*Дзе начуем з мілым...*

•

*Ну што Сусвету скажаш сам,*
*Калі ў сценах не драўляных*
*Гарэлку п'еш і п'еш бальзам,*
*Настоены на дзікіх травах...*
*Ну што пачуеш паўглухі,*
*Ды паўсляпы, ты што пабачыш,*
*Калі заніжаны кругі*
*Тваіх палётаў, дзе не значыш*
*Нічогачкі ты ўжо цяпер.*
*Сусвет звузеў, змялеў і хутка*
*Ты станеш кропкай між папер —*
*Не мар аб дапамозе хуткай...*
*Ты сам сабе дапамажы, —*
*Раскідай сцены сваёй вежы*
*І данясі свае крыжы*
*І без адзення, і без ежы,*
*Як Пілігрым у рэшце рэшт.*
*Гарбату пі без цукру й мёду*
*І праўду-матку ў вочы рэж,*
*Паклаўшы крылы на калоду!..*

•

*Не дасягнуць глыбінь тваіх мне,*
*мора!*
*І ўсё-ткі — я даўно на дне тваім,*
*Ляжу, нібы японская сафора,*
*І адчуваю дзесьці побач Крым...*
*Шторм знёс мяне сюды,*
*зламаўшы голле,*
*Вузламі павязаўшы караní...*
*А мне ўсё сніцца жнівеньскае*
*поле,*
*На недасяжнай гэтай глыбіні...*
*Навокала мяне лятаюць рыбы,*
*Дэльфінаў адчуваю шчэ здаля*
*І, праз сінечу цяжкай воднай*
*глыбы*
*Я чую плач твой, родная Зямля.*



Прыгарадная электрычка набліжаецца да канцавой райцэнтраўскай станцыі. Раман Іванавіч Мініч, прыпаўшы загарэлым тварам з пасярэбранымі скронямі да шыбіны акна, замілавана паглынае прагнымі вачыма незабыўныя, выхаджаныя з маленства, маляўнічыя мясціны, усхвалявана распавядае сваёй маладзенькай залатакудрай спадарожніцы:

— У тым вунь ельніку, на ўзгорках, мы зімою ўсёй нашай хлапечай хеўрай пастаянна прападалі. Зімы тады былі сняжыстыя, марозлівыя, не тое, што цяпер. Прыбяжыш, бывала, са школкі, паясі ўпохапкі, на лыжы і ў прысады: скакалі з трампліна, цягаліся навыперадкі, гулялі ў паляўнічага і зайцоў. Да таго захапляліся, што не заўважалі часу і дадому вярталіся пры святле месяца і зорак. Як цяпер помню: вусцішная ядраная цішыня, неба нізкае з чорным адлівам, зоркі буйныя, бухматыя, серабрыста-сінія альбо бліскуча-зялёныя, і вісяць гэтак блізка да зямлі, што здаецца да іх можна дацягнуцца рукою; рассыпісты перламутравы снег, бы жывая істота, пяе пад лыжамі, а воддаль, з апраметнай цемры блішчаць дзве-тры пары злавесных зялёных агеньчыкаў: ваўкі! Іх тады багата шастала па акрузе, але гуртам мы іх не баяліся. У хату ўвальваўся змучаны, галодны, вымаражаны. На ўрокі ўжо сіл не хапала. Мая мама была руская, гарачлівая, аднойчы, пасля гэткага чарговага выкліку ўзяла дый пасекла мае лыжы...

— Вы на яе пакрыўдзіліся? — насцярожана перабіла дзяўчына.

— М-м-м... не тое каб пакрыўдзіўся... — сумеўся Мініч. — Паплакаў, вядома, трохі, але наракаць на маму я не меў права. У вайну з намі гэткі выпадак здарыўся. Яна несла мяне завёрнутага ў коўдру на руках, а я, відаць, баяўся пажараў, што шугалі ў горадзе, і заходзіўся плачам. Міма нямецкая легкавушка праязджала. Спынілася. Выходзяць тры эсэсаўскія афіцэры ў чорных шынялях. Адзін з іх дастае парабелум і на ламанай рускай мове гаворыць маме: "Ма-атка, кляйнэ кіндэр па-ах!..." Гэта значыць пашкадаваў маму, сабака! А яна ўзяла дый сказала яму: "Калі кіндэр пах, то тады і матку па-ах!.." Здзівіліся, пахісталі галовамі, пагергеталі нешта па-свойму і паехалі. Вось гэткія жахі! — усміхнуўшыся са збянтэжанай дзяўчыны, прадаўжае: — Яна ў нас была строгая, але адыходлівая. Праз пару дзён адкупіла мне лыжы. Яшчэ лепшыя, як былі, прыдбала на станцыі ў нашых праезджых салдат з Германіі: белыя, вайсковыя, са спружынным мацаваннем. Я на іх з трампліна далей ад усіх скакаў, — хваліцца і зноў прыгадвае: — А ў той вунь зялёнай трохпавярховай мураванцы, абсаджанай бярозамі, быў дзіцячы дом для сірот вайны. Мы летам з дзетдомаўскімі хлапчукамі штодзень у футбол рэзаліся, а калі падраслі, — гарэзліва смяецца, — пачалі да іхніх дзяўчат заляцацца...

— Сто-ойце, далей не трэба, я раўную! — нечакана выпальвае спадарожніца.

Мініча ўжо цяжка чымсьці здзівіць, адно ж пасля гэткай заявы маладой асобы ён напраўду даецца дзіву. Тыдзень таму, вяртаючыся пасля пошуку патрэбнага для вытворчасці электракабеля, ён выходзіў са станцыі метро "Маладзёжная" і нечакана натрапіў на дзяўчыну, якая ў засмучэнні ад нехлямяжых пабудоў Чацвёртага загараднага завулка разгублена круціла зграбнай, з сучаснай стрыжкай, кудзерыстай галоўкай і не ведала куды ісці. Заінтрыгаваны, задаволена адчуўшы сябе джэнтэльменам, паспяшаўся ёй на дапамогу і павёў у капялюшную краму фабрыкі "Людміла", якую яна шукала. Даведаўшыся ад яе па дарозе, што зваць яе Аліна, што яна ўжо ўрач, да таго ж урач па прызванні, і працягвае вучыцца ў ардынатуры, адразу пранікся да яе душэўным даверам і неяк самадавольна, як на споведзі, выклаў ёй ледзь не ўсю сваю тужлівую аўтабіяграфію адзінокага ўдаўца, і без ніякай задняй думкі, яшчэ не вельмі ў тое паверыўшы, запрасіў да сябе на госці. Аліна, змаўчаўшы, пагадзілася, два разы пабывала ў ягонай прасторнай "сталінцы". Яны бавілі час за цікавай бяседай пад

# ЧАРОМХА

## АПАВЯДАННЕ

Дзяніслаў НІЧЫПАРОВІЧ

хораша завараную гарбату, а гэтае падарожжа ў яго родныя мясціны, у якое ён яе, каб развеяць і забавіць, запрасіў, іхняя ўсяго толькі трэцяя сустрэча. Вось і ўсё, ні болей, ні меней. З якой жа тады нагоды намякаць на рэўнасць?! Мініч нават трохі зазлаваў:

— У рэўнасці больш самалюбства, чым любові! — выгаворвае ён дзяўчыне, натыкаецца на яе асуджальна-неўразумелы позірк праніклівых сінявата-шэрых вачэй, адчувае сябе вінаватым, нечакана гулліва кранае яе за цёплую руку.

— Но-но-о, не спакушайце моладзь! — прытворна абураецца Аліна, пляскае яго руку сваёй далонькай.

Яны бестурботна смяюцца.

Не была б то вясна! Яшчэ сама красуе, хвалюючы чалавечыя душы, трапяткі бэз, а ўжо сакавітая чаромха дамешвае да яго мяккага паху свайго дурманліва-даўкага водару і гэтае жыватворнае спалучэнне двух вясновых пахаў разышлося па ўсіх куточках беларускай старонкі. Першая вясна рыхтуецца перадаць эстафету першаму лету дваццаць першага стагоддзя.

— У кожным двары бэз! Колькі бэзу! Я яго люблю! — захапляецца Аліна, раптам пытае: — А вы?

— Вядома! А як яго мая мама любіла! У нас у траўні бэзавыя букеты не пераводзіліся: белыя, ружовыя, блакітна-ліловыя, бледна-ліловыя, бардовыя, пухнастыя, мяккія, пяшчотныя. Мне думаецца, што прырода знарок так распарадзілася, каб пры сваім вясновым адраджэнні бэзавай і чаромхавай прыгажосцю натхніць людзей на ўвесь год на добрае.

— Вы, аказваецца, філосаф, — настаўіўшы на яго тварык з тонкімі рысамі, зазначае дзяўчына.

— Можа быць. Філасофія — навука, праўда, даволі блытаная, аб усеагульных законах развіцця прыроды, між іншым, а я да прыроды вялікі аматар, — пагаджаецца Мініч, хітра дадае: — Да прыроды і да ўсяго прыгожага.

— Гэта ў мой адрас? — какетліва чэпіцца дзяўчына. — Адказвайце, я ўрач, люблю канкрэтыку.

"Чорт падаткнуў ляпнуць!.." — шкадуе "кавалер", спехам абдумвае, як бы найлаўчэй пазбегчы прамога адказу, ня шчасце, у гэты самы момант — рэзкавата-кароткі штуршок вагона, цягнік спыняецца.

Як толькі Мініч саступае з прыступка вагона на перон станцыі, яго адразу ахоплівае шчымлівы сум. Здалося, яшчэ адзін-два крокі і ты зноў апынешся ў мінулым, зноў будзеш да знямогі ганяць мяч, акрывацца па самае горла гарачым пяском на адхоністым беразе Нёмана, пераклікацца з татам на грыбной зорцы ў залаціста-ружовых сасонніках і белакорых бярэзніках, ціхімі водарнымі вечарамі танцаваць чароўна-палкае танга ўшчыльную з цыбатай рыжавалосай дзяўчынай, адчуваць пад сваімі няўмела-сарамлівымі рукамі яе станіста-пругкае цела, вяртацца начнымі соннымі вулкамі дадому, а перад тым, як бязгучна адчыніць дзвярную клямку веранды, пастаяць за хатаю на агародзе сярод агурочных і маркоўных градак, удыхаць на поўныя грудзі крыштальна-чыстае хмельнае паветра, углядацца ў зорнае мройна-неразгаданае неба, марыць аб будучыні і гадаць аб невядомым шляху, што чакае цябе наперадзе.

— Чаго задумаліся? — прымушае яго ачуцца Аліна.

— Маладосць успомніў, да чаго ж слаўна!

— Стары які знайшоўся!

— Хіба не?

— Бо-ожухна, які вы стары! — упэўнівае Аліна.

Мініч акрылены: яго няпэўная роля старэйшага таварыша набывае іншае адценне. Замілавана павучае:

— Нас зараз сустрэнуць. Трымайся свабодна, не саромся, рабі выгляд, быццам ты са мною шчаслівая.

Аліна хіхікае, нечакана бярэ яго пад руку і яны крочаць у гаманлівым натоўпе да прысадзістага і доўгага, са спічастай трохкутнай сярэдзінай, мураванага вакзала. Мініч на сёмым небе ад радасці, удзячна прыціскае локцем Аліну руку да сябе, з вышыні свайго траха не двухмятровага росту раптам згледжвае і пазнае свайго сябра дзяцінства — адказнага раённага службоўца.

— Колькі год, колькі зім!

— Прапаў без вестак! Зазнаўся! — штучна адчытвае сябар.

Колькі часу вывучаюць адзін аднаго вачыма. Госць прыкмячае ў прыстойным абліччы сябра пачатак адрузласці і састарэласці, прыгнечана думае, ці відно такое ж на ім.

— Цябе і гады не бяруць! — дзівіцца сябар.

— Ну што-о ты! — сарамліва адгаворваецца ўсцешаны Мініч, знаёміць: — Гэта... — ледзь не ляпнуў "мая жонка", — Аліна, а гэта Анатоль Адамавіч.

Аліна, заружавеўшыся, з маладым задорам ківае галавою. Анатоль Адамавіч паважна і трохі фанабэрыста, — і мы, маўляў, калісьці былі рысакамі, — адвешвае паклон і запрашае да сябе ў госці.

Мінуўшы прывакзальную плошчу з аўтастанцыяй, гасцініцай, універмагам, сталоўкай і прадмагам, па вузкім, адасобленым у агародах, праходзе, выходзяць на ціхую, высаджаную клёнамі і рабінамі, вулку са звычайнымі для невялікіх гарадкоў і мястэчак спраўнымі хатамі за пафарбаванымі ў зялёны колер штакетнікамі, уходжанымі садамі і агародамі са шпакоўнікамі, кветнікамі і абавязкова бэзам ці чаромхай пад вокнамі.

Анатоль Адамавіч запытальна пазірае на госця.

— Пазнаю, Палявая! Яна мне ў снах сніцца! — Мініча агортвае ціхі стоены сум аб беззваротным мінулым, аб не вельмі ўдалым жыцці, аб нечым неспазнаным, незнаёмым, аб чым усё жыццё мроілася, трызнілася, што з'яўлялася ў снах, але яго не ўдалося распазнаць, зразумець, дамагчыся...

— Там ужо Рая зачакалася! — схамянуўся Анатоль Адамавіч, і яны па нанава пабудаванай шырокай вуліцы, незнаёмай Мінічу, ідуць да Анатоля Адамавіча.

— Ладныя церамкі хлопцы адбудавалі!

— Добрых гаспадароў адразу відаць, у іх і дамы што трэба, і ў дварах парадак, і сады пасаджаныя, — падтаквае яму яго дама.

Мініч дзівіцца: у дзяўчыны выяўляюцца прыкметы дбалай гаспадыні. Храбрыцца: "Запрашу яе да сябе ў жонкі!..", але адразу палохаецца гэтай стыхійнай думкі: — Яшчэ пасмяецца, надта ж вялікая разбежка ва ўзросце..." Косіцца на яе, а яна, як ні ў чым не бывала, какетнічае з Анатолем Адамавічам. Напаўжартам, напаўсур'ёзна выгаворвае:

— Я не раўную, але папярэджваю!

— Вось як! — задаволена выгуквае Аліна, весела і шчыра смяецца.

Мінічу спатрэбіўся ўсяго момант, каб у паўнаватай, калі не сказаць дзябёлай, з трохі прыпухлым чырванаватым тварам, густа наведзенымі ламанымі брывамі і капой начасаных валасоў, са слядамі былой прыгажосці жанчыне пазнаць тую станістую і паглядную Раю, да якой ён і сам даўней быў не супраць пазаляцацца. Ускліквае надломленым голасам:

— Раечка!

Яна расчулена адгукваецца:

— Рома!

Цёпла абдымаюцца. Рая любоўна захапляецца:

— Ромачка, ты зусім не змяніўся, такі ж прыгожы, як і быў!

Ухвалены аж цвіце, але дзеля прыліку пярэчыць:

— Гэта табе здаецца: гады ёсць гады, ад іх няма ратунку.

Адгаворку не заўважаюць. Раіна захапленне перакідаецца да Аліны: папросту, быццам даўнія знаёмыя, адначасова аглядаючы-ацэньваючы позіркам, зычліва расказвае:

— Ведалі б вы, якая дзяўчына па ім сохла: педагог, спартсменка, чэмпіёнка па бегу, а ён яе ўпусціў!

Мініч чырванее:

— Гэта ты пра Тамару? Так, дзяўчына была вартая, я яе іншым разам прыгадваю. Каб гэта на цяперашні розум, а тады я быў бесклапотны — вецер у галаве свістаў: танцулькі, футбол, сябры, застоллі...

Умешваецца Анатоль Адамавіч. З падколам:

— Маці, гасцей на парозе частаваць збіраешся?

Мініч ухмыляецца: сябар застаўся верным сабе жартаўніком і насмешнікам.

Рая мітусіцца, ветла запрашае ў хату. Стол накрыты на прасторнай, зашклёнай і аздобленай вагонкай лоджыі. З яе відаць прысядзібныя агароды і неабсяжныя светла-зялёныя прасторы з палямі, узгоркамі, дарогамі, пералескамі. На стале багацце прысмакаў, пачынаючы ад марынаваных грыбочкаў і заканчваючы куранятамі-табака.

Смяюцца, рассаджваюцца парамі. Першую чарку па запрашэнні гаспадара ўзнімаюць за сустрэчу. Становішча крыху нацягнутае: усе зацікаўлена сочаць, як будзе піць Аліна. Яна заплюшчвае вочы, прымусова-адчайна куляе пітво, чырванее, смешна ляпае далонькай па роце, упохапкі прыкусвае салёным пухірыстым агурочкам. Астатнія ўхвальна смяюцца, асушваюць свае кілішкі, моўчкі падмацоўваюцца. Аліна паслужліва падкладае ў Мінічаву талерку адборныя кавалкі закусі. Яе клопат яго мілуе, аднак робіць выгляд, быццам ён да гэтага ўжо даўно звычны. Калі гаспадар, наліваючы па другой, даходзіць да Алінавай чаркі, яна, прытрымліваючы яго руку, рэгулюе сваю нікчэмную дозу, і, узяўшы слова, кажа, што надта задаволеная знаёмствам з гэткай прыгожай, гасціннай і зладжанай сям'ёю, і прапануе выпіць за здароўе гаспадароў. "Дыпламатка!.." — ухвальвае яе Мініч і адначасова сам сябе за тое, што ўзяў яе з сабою. Трэці захад ужо гаспадары прапануюць выпіць за здароўе гасцей, напружанасць спадае, бяседа шырыцца, байчэе, больш гавораць, чым закусваюць, успаміны ляцяць, як птушыныя вырай, чарадою: пра школу, настаўнікаў, сяброў... Выяўляецца, што "одних уж нет, а те далече..." Мініч ціха спачувае, перажывае, сумуе, патроху прыкладаецца да чаркі, задуменна торкае відэльцам у талерку, думае аб тленнасці жыцця, аб зменлівасці лёсу, аб непрадказальнасці чалавечага існавання... Раптам гаспадыня парушае яго думкі дзіўным пытаннем:

— Раман, ты цяпер пяеш? Мне помніцца, ты добра спяваў.

— Уга-а, забыўся я на спевы, нават не помню, калі апошні раз спяваў, не да гэтага было.

— То ўспомні! Паспявай нам, — кленчыць яна.

— Просім, про-осім, што-небудзь пра любоў, — запрашальна пляскае ў далошкі гаспадар.

Мініч вагаецца: душа не гатовая спяваць на заказ. Песню спяваць — не дровы рубіць, патрэбна акрыленасць душы, уздым, палёт, неабходна, каб настрой на спевы запаланіў усю істоту, да таго ж Алінава прысутнасць абавязвае да сур'ёзнага падыходу і трапяткога, рамантычнага ладу, пры якім песенныя струны павінны звінець бы срэбраныя званочкі: чыста, звонка, мілагучна. Як жа дасягнуць гэткага? Нудзіцца: адсоўвае ад сябе талеркі, перакладае з месца на месца відэлец, утаропліваецца праз шыбу лоджыі ўдалечынь, бачыць неабсяжнае блакітна-белае неба з клінападобным выраем журавлёў, засяроджвае на ім усю сваю ўвагу, пранікаецца да вольных птушак гэткай адданай прыхільнасцю, што іхняе пералётнае таемна-трапяткое курлыканне адгукаецца перакатным рэхам у ягонай асветленай душы, і ён нечакана натхняецца.

— Спяю.

*Что, друзья, случилося со мною,*
*Обломал я всю черемуху весною.*
*Я носил, таскал ее возами,*
*А куда носил — вы знаете и сами...*

Першыя гукі яго голасу былі нясмелыя, надтрэснутыя. Але ж у ягоным голасе было нешта такое задушэўнае і дзіўна-здольнае, што прымусіла гаспадароў засяродзіцца, замерці, углядацца ў яго ўдзячнымі вачыма. Аліна ж ад нечаканасці схамянулася ў крэсле і з чакальна-здзіўленай мінай на прасветленым тварыку заслухалася яго.

Песня завяршылася цвёрдай аптымістычнай упэўненасцю закаханага хлопца ў сваю любоў. Мініч, перавёўшы дух, паспешліва налівае ў фужэр мінеральнай вады, ужадобку глекча. Гаспадары ўдзячна яму апладзіруюць. Аліна таксама, але з налётам лёгкага задуменнага засяроджвання і неспакою...

Дадому ладзяцца вечарам, калі спала духата надзіва гарачага веснавога дня і ўсталявалася бязветраная вечаровая свежасць з хвалюючымі пахамі бэзу і чаромхі, шпачынымі посвістамі, з крыху падсіненым блакітным небам. Мініч ад паўнаты пачуццяў двойчы, з дазволу Аліны, прыкладаецца ў вагоне да пляскатай пляшкі з самаробным каньяком, што ўзычыў яму ў дарогу Анатоль Адамавіч. Сядзяць упрытык. Мініч, падпіўшы, робіць захады абняць Аліну за плечы, але яна сарамліва не даецца і дазваляе толькі пагладжваць сябе па руцэ. Гулліва гамоняць аб усякай усячыне, вядуць разведвальна-пазнавальную гамонку: "У вас, напэўна, багата жанчын было?.." — "Чаму не? Было трохі..." — "А сабак вы любіце?" — "Чаму ты пра іх пытаеш?.." — "Бо мы трымаем сабаку..." — "Якую?.." — "Баксёрку тыгровай масці: разу-умная, свет не бачыў!.." — "Добра. Я-то сабак люблю, але не настолькі, каб трымаць у хаце... А чытаць ты любіш?.." — "Люблю. У маленстве шмат чаго перачытала, а цяпер толькі медыцынскую літаратуру: спачатку трэба вывучыцца, а потым ужо чытаць іншае..." — "А як ты наконт тэатра?.." — "Паклонніца!.." — "Я таксама. То ў бліжэйшы час сходзім..." — і не заўважаюць, як даязджаюць да Мінска.

— Я цябе праведу ў тваю Малінаўку, — падахвочваецца Мініч.

— Нізавошта! Вы і так стаміліся! — катэгарычна адмаўляецца.

"Падумаеш!.." — фанабэрыцца кавалер, дзёрзка пытае:

— Калі пабачымся?

— Пазваню...

Дома Мінічу не спіцца, бязмэтна блукае па адзінокай кватэры, быццам кагось чакаючы, доўга, прыжмурыўшыся, пазірае ў дзвярное вочка і знячэўку чуе тэлефонны званок. "Хто ж гэта можа быць так позна?.." У непаразуменні здымае трубку:

— Алё-ё?!

У трубцы гучыць жартаўліва-гарэзлівы голас Аліны:

— Добры вечар, Чаромха!

Абое даверліва і радасна смяюцца. Раптам Аліна абрывае смех, усхвалявана гаворыць:

— Раман Іванавіч, я вас люблю! — І кладзе трубку.

Мужчына ад нечаканасці бянтэжыцца, насамахоць шчасліва выспявае:

*Что мне делать, сам не понимаю,*
*Но сирень в саду я все же*
*обломаю!..*

**СІНЕМА**

# ДА 90-ГОДДЗЯ БАГАТЫРОВА

**1 верасня, у Дзень ведаў у Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры РБ прайшла імпрэза, прысвечаная 90-гадоваму юбілею народнага артыста БССР, прафесара Беларускай акадэміі музыкі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР, заснавальніка сучаснай беларускай кампазітарскай школы Анатоля Багатырова.**

**У імпрэзе прынялі ўдзел вучні А. Багатырова, выкладчыкі Акадэміі музыкі Л. Мурашка і А. Хадоска.**

**Госці музея слухалі ўспаміны аб творчай дзейнасці кампазітара, яго жыццёвым шляху, раскрылі малавядомыя факты з яго педагагічнай практыкі.**

**Да імпрэзы супрацоўнікамі музея была арганізавана выстаўка, прысвечаная жыццю і творчасці кампазітара, куды трапілі матэрыялы з фондаў музея — фатаграфіі і музычныя рукапісы кампазітара розных перыядаў.**

**Дарэчы, на выстаўцы быў экспанаваны клавір оперы "У пушчах Палесся", якая была пастаўлена на сцэне ДАВТа Беларусі і паказана на сцэне Вялікага тэатра СССР у час Першай дэкады беларускага мастацтва і літаратуры ў Маскве (1940 г.). У 1941 г. кампазітару оперы "У пушчах Палесся" была прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР.**

**У час імпрэзы можна было паслухаць творы А. Багатырова.**

**В. ДРОЗД,**
**ст.н. супрацоўнік Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры РБ**

**АНОНС**

# ВЫСТАВЫ

**Рэспубліканская мастацкая галерэя**
**вул. Казлова, 3**

З 12 верасня па 12 кастрычніка — фотамастацкая выстава "Мэрылін Манро" (прадстаўляе маскоўская галерэя "Дом Нашчокіна).

**Нацыянальны мастацкі музей**
**вул. Леніна, 20**

Да 26 верасня — выстава "Шэдэўры Траццякоўскай галерэі"

**Нацыянальны музей гісторыі і культуры**
**вул. К. Маркса, 12**

Да 25 верасня — выстава "У пошуках страчанага"

Да 20 верасня — выстава "Краса Айчыны", прысвечаная 750-годдзю каранацыі Міндоўга

**Музей сучаснага выяўленчага мастацтва**
**пр. Ф. Скарыны, 47**

З 15 па 30 верасня — выстава работ італьянскага скульптара Масімо Гіаці.

**Галерэя "Славутыя майстры"**
**Камунальная набярэжная, 6**

Да 15 верасня — жывапіс Аляксандра Кішчанкі.

Да 30 верасня — выстава "Карціна са старой сцэны" (бацік Вадзіма Удавенкі).

**Музей гісторыі беларускай літаратуры**
**вул. Багдановіча, 15**

Да 15 верасня — "Алесь Адамовіч. А для вечнасці Беларусь".

**Галерэя Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта**
**пр. Ф. Скарыны, 24**

Да 13 верасня — жывапіс Феліма Ігена і Бэзіла Блэкшоу (Ірландыя).

**ТЭАТР**

***Імя Рыда Сяргеевіча Таліпава добра вядома тэатралам Беларусі. У апошняе дзесяцігоддзе ён ставіў свае спектаклі на сцэнах усіх абласных драматычных тэатраў рэспублікі. А ў некаторых нават і неаднойчы (напрыклад, у Гомелі, Маладзечне). Ведаюць яго і сталічныя***

# СПЕКТАКЛІ ГАВОРАЦЬ ПРА ЧАЛАВЕКА



***гледачы, якія амаль заўсёды аншлагава запаўнялі розныя тэатральныя залы Мінска, дзе ў канцы 80-х — першай палове 90-х гадоў паспяхова паказваў спектаклі Мінскі тэатр-студыя пад кіраўніцтвам Р. Таліпава.***

Калектыў вабіў сваёй неардынарнасцю, маладосцю і прыгажосцю. Прыгажосцю ва ўсім, дзе да дробязяў былі прадуманы ўсе дэталі сцэнічнага дзеяння і афармлення. Прывабныя маладыя актрысы ў шыкоўных доўгіх сукенках з эксклюзіўных калекцый сталічнага Дома мод уражвалі сваёй жаноцкасцю і пяшчотай. А схільнасць калектыву да ідэй высокага мастацтва дазваляла яму называць сябе як тэатр інтэлектуальнай драмы. Таму непатрабавальны і няўважлівы глядач адчуваў сябе няўтульна, бо спектаклі Рыда Таліпава былі разлічаны на ўдумлівую публіку. Знешняй строгасцю, сэнсавай напоўненасцю і багатай асацыятыўнасцю яны схілялі да актыўнага мысліцельнага працэсу. Хто мы? Навошта жывём на гэтым свеце? Ці магчыма зберагчы ў сабе чалавека, духоўнасць нават пад націскам трагічнага лёсу? І як гэта зрабіць? Такія пытанні пастаянна ўзнікалі на спектаклях тэатра. Ён не даваў адказаў на іх. Але абуджаў у душы гледача жаданне разважаць аб сэнсе свайго існавання і жыцця наогул. У выніку ў сваім творчым накірунку калектыў вызначыўся як канцэптуальны тэатр аднаго рэжысёра з арыентацыяй на інтэлектуальную драму і ідэі сцэнічнага абсурду. У сваіх спектаклях Рыд Таліпаў заўсёды імкнуўся да гарманічнага адзінства ўсіх сродкаў сцэнічнай выразнасці, дзе звук і колер набывалі важную драматургічную значнасць. У сувязі з гэтым пастаноўшчык выступаў і як аўтар мастацкага і музычнага афармлення. У цэлым уся складаная і мэтанакіраваная канва спектакля садзейнічала яркаму выяўленню сцэнічных герояў з адметным унутраным светам, складаным праяўленнем пачуццяў і душэўных перажыванняў, што абумоўлівала гранічную адкрытасць размовы з гледачом.

Першы спектакль тэатра "Стрыптыз" С. Мрожака (1988) вырашаўся як філасофская трагікамедыя-абсурд. Ён паспяхова паказваўся на буйных міжнародных фестывалях у Аўстрыі, Заходняй Германіі, на гастролях у Славеніі, на міжнародным фэсце "Славянскія тэатральныя сустрэчы" ў Мінску. Узнагароджаны многімі дыпломамі. У "Стрыптызе" толькі дзве дзеючыя асобы — Ён і Яна. Зусім незнаёмыя раней і вельмі розныя па характары і светаадчуванні, гэтыя людзі раптоўна аказваюцца ў адной жыццёвай вупражы. Гаворачы словамі Марыны Цвятаевай "чужих людей соединенность" пільна ахоўваў суровы Лёс. Што рабіць у гэтай сітуацыі? Ці трэба несці свой крыж, альбо плыць па волі жыццёвых хваляў? У спектаклі былі занятыя Вольга Сізова і Ігар Сцяпанаў. Пантамімічную ролю жорсткага Лёсу пераканаўча выконваў Алег Гельман. Спектакль карыстаўся вялікай папулярнасцю ў гледачоў і лічыўся адным з лепшых у творчасці Рыда Таліпава і тэатра.

Нязменным поспехам карысталіся і наступныя пастаноўкі, якім былі ўласцівыя тая ж сэнсавая напоўненасць і арыгінальная аўтарская стылістыка рэжысёра. Гэта — парадаксальная трагікамедыя "Картатэка" Т. Ружэвіча, трагікамедыя-роздум "Яма" паводле А. Купрына (абодва 1989), трагікамедыя-псіхааналіз "Кантрабас" П. Зюскінда (1992). Сярод акцёраў трупы варта адзначыць В. Сізову, І. Сцяпанава, Т. Вінаградаву, С. Ушкалаву, Т. Траскунову і інш. Запрашаліся і артысты з іншых тэатраў Мінска, напрыклад, народная артыстка Беларусі, балерына Т. Яршова, заслужаныя артысты Л. Румянцава, В. Манаеў, артысты Т. Гаркуша, В. Ліхадзей, Р. Шмыроў. На жаль, па эканамічных прычынах, не атрымаўшы належнай дзяржаўнай датацыі, тэатр вымушаны быў спыніць сваё існаванне ў 1994 годзе. Тым не менш, яркая пазітыўная творчасць гэтага калектыву, думаецца, назаўсёды захавала за ім адметнае месца ў гісторыі сучаснага драматычнага мастацтва Беларусі і асабліва тэатральна-студыйнага руху 80—90-х гадоў.

У наступны перыяд Рыд Таліпаў пачаў ставіць спектаклі ў абласных тэатрах рэспублікі, актыўна працаваць з беларускімі драматургамі і перакладчыкамі. Работа мела свой добры плён. Творца атрымаў шмат пачэсных узнагарод і дыпломаў на розных тэатральных фэстах нашай краіны. Адной з удалых пастановак апошніх гадоў варта лічыць псіхалагічную драму "Іванаў" А. Чэхава на сталічнай сцэне — у Мінскім драматычным тэатры "Дзе-Я?" (2000 г.). Спектакль атрымаўся сур'ёзны, цікавы. Ён моцна трымаў увагу гледачоў, абуджаў іх думкі і пачуцці. Рэжысёр удала выкарыстоўваў спе-

**ПРЭМ'ЕРЫ**

***16 верасня спектаклем "Хаваншчына" адкрые новы сезон Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы Беларусі.***

Адзвінелі званы незабыўнага "Барыса Гадунова", і ў нашай оперы зноў прэм'ера: мінулы сезон скончыўся "Хаваншчынай" таго ж цярпліўца Мусаргскага. Ці то рускія музычна-гістарычныя драмы сугучныя сённяшняму стану нашага жыцця, ці то адно на іх пастаноўкі і знаходзяцца тыя сродкі (дарэчы, не такія ўжо малыя), якіх бракуе на стварэнне менавіта беларускіх спектакляў.

Казалі ў кулуарах, што гэта мае быць самасцвярджэнне новага мастацкага кіраўніка

# ЛЕПШ АДЗІН РАЗ УБАЧЫЦЬ, ЧЫМ ДВА РАЗЫ ПАЧУЦЬ



тэатра М. Ізворскай, якая выступіла тут і ў якасці рэжысёра-пастаноўшчыка. А ў зале падчас спектакля даводзілася неаднаразова міжволі рабіць параўнанні з даўняй пастаноўкай С. Штэйна ў гэтым жа тэатры ці з нядаўняй — пецярбургскага Марыінскага. І трэба зазначыць галоўную адметнасць тутэйшай: крыху лепей за прыгаданага "Барыса Гадунова".

Дэкаратыўная частка, прынамсі, найбольш удалая (мастак-пастаноўшчык В. Окунеў). Яна ў асноўным адпавядала гістарычнаму і музычнаму кантэксту (у адрозненне ад афармлення "Барыса"). І калі б не мала зразумелая і як быццам недабудаваная драўляная канструкцыя над сцэнай (сярэднявечны даўгабуд?) і не аголеная натура-скульптура ў кабінеце Галіцына (здаецца, анахранізм), на якую спакойна дзівіцца раскольнік Дасіфей у адпаведнай сцэне, то і наогул было б выдатна.

Пабудова мізансцэн — таксама відавочны крок насустрач аўтарскім намерам у параўнанні з "Барысам", хаця некаторыя "наватарствы", разлічаныя хіба на густ аматара амерыканскага кіно, сям-там праглядалі. Асабліва гэта датычыць сцэны ў доме Хаванскага. У рэмарках Мусаргскага нідзе не пазначана, што шаноўны князь бярэ ўдзел у танцах персідак, а наконт яго смерці ў канцы сцэны сказана: *Хаванскага знянацку забіваюць пры дзвярах... (і г.д.). Шаклавіты падыходзіць да трупа.* Няма ніякага "падрыхтоўчага" забойства служак, якія ахоўвалі ўваход (чаго бязглузды князь у нас і не прыкмеціў), і зразумела, што не асабіста Шаклавіты забівае Хаванскага, як адбываецца ў нашай пастаноўцы, дзе сваю апошнюю рэпліку ён пяе, паставіўшы нагу на, даруйце, пуза ахвяры! Ой, не баярская гэта справа!

Аркестр і хор, як і ў "Барысе", больш-менш задавальняючыя, але калі-нікалі цяжка было нават з трэцяга раза разабраць тэкст пазасцэнічных эпізодаў хору, і не заўсёды суладна паміж сабою гучалі духавыя — вось гэта якраз добра адчувалася. Агульная музычная канцэпцыя з'яўляецца, верагодна, аднаўленнем на сучасным этапе таго, ужо вядомага стаўлення да твора, што існавала ў першай чвэрці XX стагоддзя і потым неаднойчы пераасэсоўвалася. Вось дзве цытаты:

**"...Гэтую оперу трэба рэстаўраваць на прадмет боскай іконы, схаванай напластаваннямі іншых сэнсаў, нанесеных часам. У оперы ёсць персанажы і цэлыя сцэны, якія даюць уяўленне пра глыбінную падсвядомасць рускага чалавека. Момант адгадвання свайго лёсу і лёсу народа — містычны; сапраўдныя пласты зместу адносяцца да**

цыфічную сцэнічную пляцоўку тэатра. Згодна яго задуме яна ўяўляла сабой карабель, які плыў у акіяне жыцця і час ад часу падаваў трывожныя гудкі — не ўсё на ім было ў парадку... Гледачы як быццам бачылі нутро гэтага карабля, былі сведкамі падзей, якія там разгорталіся. Прайшло жыццё, уплыў карабель, яшчэ раз трывожна загудзеўшы на развітанне... У галоўнай ролі пераканаўча выступіў І. Падлівальчаў, які паказаў высакароднага, але разгубленага ў жыцці чалавека, загінуўшага ад жорсткага душэўнага разладу. Драматычна-напружаны вобраз яго пяшчотнай адданай жонкі бліскуча стварыла таленавітая купалаўская актрыса З. Белахвосцік, якая была запрошана для ўдзелу ў гэтым спектаклі. Нельга не адзначыць і характэрную ролю маладой прыгожай удавы Бабакінай у запамінальным выкананні вучаніцы Р. Таліпава — В. Сізовай (былой прымы яго тэатра-студыі).

Увогуле трэба адзначыць, што сэнс сваёй творчай манеры, якая была ўласціва гэтаму пастаноўшчыку ў пачатку сваёй рэжысёрскай дзейнасці, ён здолеў захаваць. Нягледзячы на тое, што творчы почырк Р. Таліпава стаў больш ураўнаважаным і рэалістычным, засталося імкненне працягваць ствараць свой філасофска-спавядальны тэатр, героі якога шчыра каюцца ў грахах і палка імкнуцца да дабра, духоўнасці і прыгажосці. Думаецца, што ў гэтым жа рэчышчы трактуецца і новая пастаноўка майстра "Я люблю цябе, Сара!" (2003 г.), у аснове якой п'еса "Кантрабас" П. Зюскінда. Інсцэніроўка новай версіі, сцэнаграфія і музычнае афармленне належаць таксама Р. Таліпаву. Трэба адзначыць і ўдалы дэбют у якасці харэографа ў гэтым спектаклі народнай артысткі Беларусі Т. Яршовай (гераіні ранейшай пастаноўкі "Кантрабаса"). У галоўнай ролі таленавіта выступае І. Сцяпанаў (прэм'ер былога тэатра-студыі і вучань Р. Таліпава). У балетнай партыі яго каханай — жанчыны-мары ўзнёсла прадстае маладая прыгожая салістка Вялікага тэатра балета Беларусі Л. Кудраўцава. Элітарны спектакль, які ідзе ў прэстыжнай Малой зале Палаца Рэспублікі — у самым цэнтры беларускай сталіцы, зрывае заслужаныя авацыі інтэлігентнай публікі. Спектакль — рамантычны і адначасова вельмі сур'ёзны, складаны для пастаноўкі і выканання перш за ўсё сваёй пастаяннай дынамічнай напружанасцю. Знешне стрыманы, амаль палутарагадзінны маналог героя, пранікнуты суцельнымі душэўнымі пакутамі, у выніку якіх ён самаідэнтыфіцыруе сябе як асобу і прадстае перад важным жыццёвым выбарам. Усе спектаклі Рыда Сяргеевіча Таліпава гавораць пра Чалавека, пранікнуты ўвагай, спачуваннем і любоў'ю да Яго. Думаецца, што гэты творца заўсёды імкнецца выклікаць у сэрцах гледачоў жаданне прааналізаваць і іхняе жыццё, асабісты лёс і стаць хоць крышачку лепей!

**Людміла ЛЯВОНАВА**

**НА ЗДЫМКАХ: Р. ТАЛІПАЎ (1992); сцэны са спектакляў "Іванаў".**



Фота А. ДЗМІТРЫЕВА.

**галіны экстрасэнсорыкі, інтуіцыі..." (музычны кіраўнік і дырыжор-пастаноўшчык Г. Праватораў, з праграмы спектакля).**

**"З Хаваншчынай звязаны як найбольш каштоўныя знаходкі, так і сур'ёзныя памылкі. Асаф'еў першы загаварыў пра песеннасць гэтай оперы, пра мелодыку Марфы як праяву найглыбокшай духоўнасці і, разам з тым, як пра новы менавіта рускі тып музычнага мыслення (Б. Асаф'еў. Сімфанічныя эцюды, Пб., 1922; 2-е выд: Л., 1970, с.205, 207). Разам з тым нішто не зведала ў тыя гады такога сур'ёзнага скажэння, як ідэя Хаваншчыны, якую трактавалі ў рэлігійна-містычным духу" (Э. Фрыд "М. П. Мусаргскі. Праблемы творчасці", Л. 1981, с. 7).**

У цытаванай праграме, дарэчы, пазначана, што опера ідзе ў рэдакцыі Д. Шастаковіча. Аднак адметнымі рысамі яе, акрамя новай (у параўнанні з папярэдняй рэдакцыяй М. Рымскага-Корсакава) інструментоўкі, лічацца аднаўленне найбольш поўнага тэксту (без усялякіх купюр) і прапанаваны Шастаковічам фінал оперы (як вядома, не скончанай аўтарам). Паводле Шастаковіча, пасля апошняга хору раскольнікаў і выхаду рэйтараў ды пятроўцаў ідзе фрагмент на матэрыяле хору першай дзеі "Ой, ты, родная матухна Русь", потым фрагмент з аркестравага ўступу да оперы, што стварае лагічнае атачэнне спектакля. Так падрабязна кажу пра гэта, бо нічога падобнага ў новай пастаноўцы няма: опера абрываецца пасля хору раскольнікаў, паяднанага з харэаграфічным дзействам. (Калі дзяўчынка з агеньчыкам бяжыць па "беражку" аркестравай ямы, сэрца, канечне, замірае, але і з'яўляецца думка: ці не зваліцца дзяўчо зянацку на чыюсьці галаву, як звалілася ідэя такога фінала, непрадугледжанага ніякай рэдакцыяй.) Іншыя купюры (пастар, Сусана) падаліся больш удалымі і не сказілі дзеяння, як было з купюрамі ў пінігінскім "Барысе". Хаця неўразумелым успрымаецца скарачэнне хору раскольнікаў перад песняй Марфы (ён мае ў Мусаргскага драматычны сэнс, аб'ядноўваючы гэтую і папярэднюю сцэну ў Галіцына).

Дапушчальныя, відаць, розныя погляды на оперу... Напрыклад, у некаторых ужо далёкіх ад нас еўрапейскіх краінах яшчэ ацалела замшэлае ўяўленне: каб добра спяваць у оперы, трэба, па-першае, валодаць голасам, а па-другое, усведамляць сцэнічную сітуацыю. Наша вакальная школа, здаецца, пазбавілася такіх забабонаў (не так даўно адзін вядомы наш саліст, педагог, знаўца музычнай спадчыны выказваўся наконт таго, што нам не патрэбныя вакальныя копіі "іх" зорак. Ці не таму ў новай пастаноўцы спявалі ў спрадвечным сэнсе гэтага слова нямногія?

Вельмі ўдалым і пераканаўчым было выкананне партыі Шаклавітага У. Пятровым, які дакладна ўвасабіў аўтарскі тэкст. Не замяняў дэкламацыяй высокія ноты (дарэчы, дакладна выпісаныя кампазітарам), як тое рабілі выканаўцы некаторых іншых партый (кн. Андрэй, Падзячы). Добрае ўражанне ад князя Галіцына ў выкананні В. Мінгалёва і Дасіфея ў выкананні В. Кавальчука. На жаль, цэнтральная жаночая роля (Марфа) падалася шараговай і ў вакальным, і ў сцэнічным плане. А найяскравейшы ўспамін — князь Андрэй, які ўвабраў у сябе найхарактэрныя рысы мясцовага вакалу і сцэнічных паводзінаў. Знайшліся аднак у зале злыя языкі, якія насмеліліся сцвярджаць, што калі голас дрыжыць у паўтон, а даганяючы Эму з крыкам "няма паратунку галубцы ад сокала яснага" кн. Андрэй кідаецца ў супрацьлеглы ад яе бок, дык гэта — "НЕЛЕПОСТЬ" (на мове арыгінала), як і метровая шабля (у Мусаргскага — кінжал) у яго сутычцы з Марфай.

Што ж пажадаць тэатру ў сезоне 2003—2004 года... Каб спектаклі, адметныя высокай колькасцю выканаўцаў і вялікімі выдаткамі на пастаноўку, былі адэкватныя гэтаму і па ўзроўні, якасці выканання (ва ўсіх, а не толькі ў некаторых партыях). Каб у шэрагу рускіх і заходнееўрапейскіх музычных драм з'явілася якая-ніякая, хаця б камерная, айчынная опера (здаецца, самаплагіят: я пісаў пра гэта ўжо ў артыкуле, прысвечаным пастаноўцы "Барыса Гадунова" — ды мінула два гады, а змен ніякіх). Каб дзяржаўная падтрымка сур'ёзнага музычна-тэатральнага мастацтва не згасала і сродкі ішлі на стварэнне сапраўды Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Беларусі — як паводле назвы так і паводле зместу. Да новых сустрэч, да новых ўражанняў...

**Дзмітрый ЛЫБІН,**
**кампазітар, музыказнаўца**

**НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля "Хаваншчына". ФОТА А. ДЗМІТРЫЕВА**

**ТВОРЦА**

# «PRESENT INDEFINITE» УЛАДЗІМІРА ПРАКАПЦОВА

Сваё пяцідзесяцігоддзе дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь Уладзімір Пракапцоў адзначыў на Гомельшчыне. На адкрыцці яго выставы было людна. Прысутнічала не толькі абласное кіраўніцтва. З нагоды выставы Савет дырэктараў музеяў Беларусі зрабіў выязное пасяджэнне ў Гомелі. Таму на адкрыцці была і большасць дырэктараў вялікіх музеяў рэспублікі: дырэктар Літаратурнага музея Я.Коласа Зінаіда Камароўская, музея тэатральнай і музычнай культуры Зінаіда Кучар, мемарыяльнага музея Брэсцкая крэпасць-герой Валерый Губарэнка, музея беларускай архітэктуры пад адкрытым небам Юрый Ткацэвіч і іншыя.

Варта згадаць, што Гомельшчыне пашчасціла з губернатарам Аляксандрам Якабсонам, які сапраўды руліцца пра культуру. Менавіта яго намаганнямі быў адрамантаваны дзіцячы садок і аддадзены пад Мастацкую галерэю Гаўрыіла Вашчанкі, адліты ў бронзе і знайшоў сваё месца ў гарадской забудове помнік апошняй уладальніцы палаца Ірыне Паскевіч, актыўна рэстаўруецца сам палац Паскевічаў. Менавіта ў нядаўна адкрытай для наведвання вежы гэтага палаца, на апошнім паверсе ў прыстасаванай зале і размясцілася выстава Уладзіміра Пракапцова.

Сам Уладзімір Іванавіч родам з Гомельскага краю. Нацыянальны мастацкі музей стала ўжо прывозіць мастацкія выставы з фондаў у Абласны краязнаўчы музей (часткай якога і з'яўляецца палац). Таму выстава ў Гомелі выглядала невыпадковай. У вёсцы Жгунская Буда Добружскага раёна жывуць бацькі І. Пракапцова. Маці Марыя Андрэеўна прыехала на адкрыццё персанальнай выставы сына. Дарэчы, першай у яго творчай біяграфіі. Удзел у калектыўных экспазіцыях не дае цэласнае ўяўленне пра творчую асаблівасць мастака. Карціны У. Пракапцова, сабраныя разам, сапраўды ўразілі. І найперш — нечаканым адкрыццём наноў мастацтвазнаўцы і дырэктара Пракапцова яшчэ і як мастака.

Шлях творчых пошукаў У. Пракапцова, які пачаўся ў сярэдзіне 1970-х гадоў пасля заканчэння мастацка-графічнага факультэта Віцебскага педагагічнага інстытута, падштурхнуў яго найперш да мастацтвазнаўства. У гэтай галіне ён абараніў кандыдацкую дысертацыю, шмат гадоў працаваў у апараце Савета Міністраў Беларусі, а пяць гадоў таму ўзначаліў Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь. Але менавіта вывучэнне гісторыі беларускага мастацтва, яго сучасных плыняў, шматгадовае супрацоўніцтва з вялікім колам мастакоў арганічна звярнула У. Пракапцова наноў у плынь жывапісных пошукаў.

Яго майстэрня цеснаватая для вялікіх жывапісных палотнаў, цяпер ён дзеліць яе і з сынам Паўлам, студэнтам 3 курса Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, будучым керамістам (дарэчы Уладзімір Іванавіч зрабіў сваю персанальную выставу ў Гомелі разам з сынам). У майстэрні захоўваецца большасць карцін. У. Пракапцоў шчыра прызнаецца, што яму катастрафічна не стае часу для творчай працы, дырэктарская пасада забірае і вольны адпачынак, і душэўныя сілы. Тым не менш, па вечарах, у выхадныя дні ён імкнецца ў майстэрню ці на прыроду, з апантанасцю замалёўвае і родныя гомельскія мясціны, і прыродныя закуточкі каля Астрашыцкага возера, куды часта прыязджае адпачываць. Ёсць у яго і цікавая серыя работ, прывезеных з пленэру, які адбываўся на Акадэмічнай дачы Саюза мастакоў Расіі і ў "Чайцы" ў Цвярской губерніі Расіі, у доме, дзе некалі жыў і працаваў Вітольд Бялыніцкі-Біруля, падчас першага міжнароднага пленэру.

Працы У. Пракапцова адметныя сваёй стылістычнай завершанасцю, абвостраным бачаннем гісторыі і мінулага. Нездарма першыя свае карціны ён прысвяціў паэзіі Максіма Багдановіча, лёсу Адама Міцкевіча, прывідам Нясвіжскага замка. Адзін з найбольш вядомых і ўдалых твораў У. Пракапцова "Present Indefinite", напісаны ў 1997 годзе, стаў мастакоўскай рэакцыяй на нядбайныя адносіны да архітэктурнай спадчыны. Вобраз напаўразбуранай царквы, заснежанага поля і самога мастака на першым плане ўспрымаецца гарманічным цэлым, мае своеасаблівую мелодыку, зладжаную з рытмамі архітэктонікі карціны.

Асаблівае стаўленне мае У. Пракапцоў і да краявідаў. Іх ён піша шмат, і не толькі на пленэры. Большасць распрацоўвае па накідах у майстэрні. Краявіды ў яго выкананні здаюцца простымі і немудрагелістымі, але пазнавальна-блізкімі. Яны пакідаюць пачуццё хвалюючага датыкнення да прыгажосці нашай зямлі. Мастак імкнецца захаваць галоўнае — непасрэднасць эцюднага малюнка. Ён шукае прыгажосць у звыклых сюжэтах: у магутнай плыні ракі, у жоўта-зялёным полі, у ледзьве бачных удалечыні вясковых забудовах, у азёрнай таямнічай глыбіні. Ён эксперыментуе, то набліжаецца да суцэльна рэалістычнага малюнка, да выяўленай графічнасці, то размывае колеры і выявы ў імпрэсіяністычнай манеры. Але ўсе яго краявіды адрознівае ўвага да незаўважных на першы погляд дэталяў: да белых гарлачыкаў на вадзе, вялікіх лужын на вясковай вуліцы, прыгнутых адзін да аднаго дрэваў на пагорку.

Жывапіс стаў для Уладзіміра Пракапцова крыніцай натхнення, часткаю яго жыцця. Ён імкнецца да стварэння жывых, напоўненных прыгажосцю і радасцю карцін, якія раскрываюць унутраную сутнасць яго характару, яго адносіны да Беларусі.

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**








# ТАМ, ДЗЕ ВЕЖЫ САФІІ...








Фота К. ДРОБАВА

У старажытным Полацку 7 верасня прайшло свята — Дзень беларускага пісьменства. Святочныя мерапрыемствы пачаліся ў Мінску, калі выйшла ў свой шлях Рэспубліканская навукова-творчая экспедыцыя "Дарога да Святыняў з Благадатным Агнём ад Гроба Гасподняга". Шлях экспедыцыі пралягаў праз сем гарадоў Віцебшчыны: Паставы, Глыбокае, Шаркаўшчыну і іншыя, і завяршыўся раніцай 7 верасня ў Полацку на плошчы ля помніка Еўфрасінні Полацкай. Потым каля Крыжа ва Узвіжанскім храме манастыра прайшла святочная літургія. Па горадзе адбылося шэсце прадстаўнікоў гарадоў нашай краіны, у якіх у мінулыя гады святкаваўся Дзень беларускага пісьменства.

Урачыстае адкрыццё свята адбылося на плошчы Свабоды, дзе перад прысутнымі выступілі: намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Алег Праляскоўскі, які агучыў віншаванне са святам ад Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, намеснік прэм'ер-міністра Уладзімір Дражын, кіраўнік Віцебскай вобласці Уладзімір Андрэйчанка, прадстаўнікі гарадской улады, духавенства, а таксама галоўны рэдактар часопіса "Маладосць" Раіса Баравікова.

На пляцоўцы каля кінатэатра "Радзіма" адбылася цырымонія адкрыцця помніка Сімяону Полацкаму. А на плошчы Ф. Скарыны прайшоў фестываль дзіцяча-юнацкай прэсы і рэспубліканская акцыя СМІ і ЮНІСЕФ "Моладзь за здароўе і развіццё". Да ўсяго ў Полацку быў адкрыты першы Беларускі дзіцячы музей, працаваў "горад майстроў", выступалі зоркі беларускай эстрады, паэты. Жыхары горада і госці свята змаглі папрысутнічаць на прэзентацыі кнігі "Там, дзе вежы Сафіі", якую выдала выдавецтва "Мастацкая літаратура". Дзень беларускага пісьменства завяршыўся святочным феерверкам. У наступным годзе Дзень беларускага пісьменства пройдзе ў Тураве.





***Колькі разоў ужо было сказана пра тое, што для культуры няма межаў. У гэтым пераконваешся кожны раз, калі трапляеш на літаратурную, тэатральную, мастакоўскую імпрэзу, у якой бяруць удзел творцы з розных краінаў. Калі гэта сапраўдныя творцы — яны размаўляюць на адной мове, на мове духоўнасці. Многія з такіх імпрэз, на якіх давялося пабываць і мне, і многім іншым беларусам, адбыліся пры дапамозе Інстытута імя Гётэ, арганізацыі, якая набыла вядомасць і аўтарытэт у нашай краіне. Не дзіва — за дзесяць гадоў працы на рахунку інстытута — вялікая колькасць цікавых сумесных праектаў, пра іх чытачы "ЛіМа" маглі прачытаць на старонках нашага тыднёвіка. Многія літаратары, мастакі, рэжысёры з задавальненнем супрацоўнічалі з гэтай установай,***

# НА МОВЕ ДУХОЎНАСЦІ

***маленькім куточкам сапраўднай еўрапейскай культуры, што ўвачавідкі звязвае нас з усёй Еўропай. Але падрабязней пра гэта раскажа мая субяседніца, дырэктар Інстытута імя Гётэ фраў Барбара Фрэнкель-Тонэт.***



***— Фраў Фрэнкель-Тонэт, дзесяць гадоў, як ваш інстытут працуе на Беларусі. Але яго гісторыя, вядома, больш даўняя.***

— Так, і мне хацелася б расказаць трохі пра нашу арганізацыю ўвогуле. Інстытут імя Гётэ — гэта самая буйная арганізацыя, якая прадстаўляе нямецкую культуру за мяжой і мае прадстаўніцтвы ў 76 краінах. Інстытут працуе па даручэнні Міністэрства замежных спраў Германіі па пытаннях, якія тычацца нямецкай культуры і нямецкай мовы. У верасні мы будзем святкаваць дзесяцігадовы юбілей нашай працы на Беларусі. З гэтай нагоды 19 верасня інстытут праводзіць Дзень адчыненых дзвярэй — калі ласка, прыходзьце. Дарэчы, на ўрачыстасць з Мюнхена павінен прыехаць Генеральны сакратар Інстытута імя Гётэ сп. Гарнішфегр.

***— Чым непасрэдна займаецца інстытут?***

— У нас тры асноўныя накірункі дзейнасці. Першы — праца курсаў нямецкай мовы. Па-другое — бібліятэчная і інфармацыйная дзейнасць. І трэцяе — культурныя праекты. Мы будуем сваю працу як дыялог. Гэта агульны прынцып Інстытута імя Гётэ, дзе б ні працавала яго прадстаўніцтва: мы намагаемся распрацоўваць нашы праграмы разам з партнёрамі на месцах.

***— Інстытут носіць імя паэта. Таму лагічным будзе папытацца пра літаратурныя праекты...***

— У рамках Нямецкага тыдня, які будзе праводзіцца з 2 па 10 кастрычніка ў Мінску, мы плануем правесці прэзентацыю кнігі "Лінія фронту". У гэтым зборніку, выдадзеным пры дапамозе нашага інстытута, прадстаўлены па сем твораў маладых нямецкіх і беларускіх паэтаў (таксама па сем з абодвух бакоў) — Яна Фалька, Карлы Раймерт, Юрася Барысевіча, Зміцера Вішнёва, Вальжыны Мартынавай і інш. Некаторыя з прадстаўленых у кнізе аўтараў выступілі і як перакладчыкі: Андрэ Бём пераклаў творы сваіх беларускіх калег на нямецкую мову, а Вольга Гапеева і Альгерд Бахарэвіч — нямецкія тэксты на беларускую. У прадмове да кнігі Андрэ Бём зазначае: "Ні адзін паэт сёння не можа займацца літаратурнай творчасцю, не зважаючы на тое, што адбываецца за мяжой".

***— Але творчасць маладзевых літаратурных груповак — толькі частка сучаснай беларускай і нямецкай літаратур...***

— Інстытут Гётэ прадстаўляў шмат якія літаратурныя праекты. На Беларусь у розны час прыязджалі і выступалі на літаратурных імпрэзах Эльке Эрб (якая, дарэчы, перакладае такіх беларускіх аўтараў, як Алесь Разанаў, Ніна Мацяш, Уладзімір Арлоў), Вальтэр Цюмлер, Гунтрам Фэспер, Норберт Гумэльт. Была выдадзена кніга вершаў Сары Кірш, Эльке Эрб, Норберта Гумлера "Кропка, кропка, працяжнік" у перакладах Алеся Разанава, мы правялі прэзентацыю кнігі Алеся Разанава "Гановерскія пункціры", напісанай у Германіі і выдадзенай там на беларускай і нямецкай мовах, — у прэзентацыі ўдзельнічаў і перакладчык вершаў Оскар Анзуль. Мы дапамагалі ў падрыхтоўцы "Літаратурнага экспрэса", у якім удзельнічалі і беларускія літаратары — Вольга Іпатава, Андрэй Федарэнка і Леанід Дранько-Майсюк, ладзілі мы і літаратуразнаўчыя імпрэзы, прысвечаныя сучаснай нямецкай і беларускай літаратуры і г. д.

***— Ад сябе з удзячнасцю згадаю дапамогу ў правядзенні "круглага" стала па праблемах мастацкага перакладу, у якім браў удзел Саюз беларускіх пісьменнікаў, аддзел крытыкі нашай газеты, які прадстаўляла я, і Інстытут Гётэ. Матэрыялы дыскусіі былі надрукаваныя ў "ЛіМ"е і выклікалі розгалас.***

***Інстытут з самага пачатку шмат супрацоўнічаў з беларускімі тэатрамі...***

— Так. Яшчэ ў лютым 1997 г. па ініцыятыве першага дырэктара Інстытута імя Гётэ ў Мінску на сцэне Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі праводзіліся сцэнічныя чытанні сучасных нямецкамоўных п'ес, і з таго часу яны праводзяцца рэгулярна, прытым не толькі ў Мінску, але і ў іншых гарадах. У лістападзе 1998 г. на базе сцэнічных чытанняў адбыўся Першы фестываль нямецкамоўнай драматургіі. У фестывалі ўзялі ўдзел чатыры тэатры: Віцебскі Акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа, Дзяржаўны рускі тэатр, Мінскі абласны драматычны тэатр з Маладзечна і Тэатр беларускай драматургіі. Дзейсную падтрымку ў правядзенні фестывалю аказала беларускае Міністэрства культуры. Усе прадстаўленыя спектаклі ўвайшлі потым у рэпертуар адпаведных тэатраў. У снежні 2002 г. адбыўся Другі фестываль нямецкай драматургіі, які праводзіўся ў Мінскім тэатры-студыі кінаакцёра. Дарэчы, на абодвух фестывалях Гран-пры за лепш спектакль атрымаў Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа.

Ну і, вядома, мінскія тэатралы памятаюць прэм'еру оперы "Фауст" А. Радзівіла, якая адбылася ў ліпені 1999 г. і была прысвечана 250-годдзю Ё. В. Гётэ. Інстытут імя Гётэ і Пасольства Федэратыўнай Рэспублікі Германія падтрымалі калектыў і ягонага кіраўніка, пастаноўшчыка "Фауста" Віктара Скорабагатава, які даўно намагаўся вярнуць да жыцця гэтую некалі вельмі вядомую ў Еўропе, а потым забытую оперу. Варта згадаць дзейсную асабістую зацікаўленасць у ажыццяўленні праекта, праяўленую тагачасным паслом Федэратыўнай Рэспублікі Германія сп. доктарам Хорстам Вінкельманам і дырэктарам Інстытута імя Гётэ сп. Карын фон Врангель.

***— Паколькі наш штотыднёвік называецца "Літаратура і мастацтва", не магу не запытаць і наконт праектаў інстытута ў галіне мастацтва...***

— У памяшканні інстытута на Фрунзе, 5, з 2000 года дзейнічае "М-галерэя". З найважнейшых праектаў, што адбыліся там, згадаю тры Міжнародныя тэматычныя выставы: "Тэксты" (1997/98), "Ілюзія адлегласцяў" (2000), "Вокны аднаго горада" (2001/2002). Цяпер у галерэі можна паглядзець выставу графікі маладога мастака Рамана Сустава "Мора цішыні". Наступныя выставы, якія змогуць пабачыць наведнікі, прадставяць графіку Сяргея Балянка "Няскончаны джаз", акварэль Аляксандра Вахрамеева, творы Віктара Пятрова "Аб'екты і жывапіс". Мы цесна супрацоўнічаем з Беларускай акадэміяй мастацтваў. 17 верасня ў межах нямецкага тыдня ў музеі Акадэміі мастацтваў адкрыецца выстава фатаграфічных работ Сузаны Бругер, Томаса Дэманда і Хайдзі Шпекера. Можна згадаць і нешта з ужо здзейсненага. Для студэнтаў, выкладчыкаў, аспірантаў акадэміі з 2000 года ладзіцца семінар "Сучасныя тэндэнцыі і новыя формы ў мастацкай культуры Цэнтральнай і Усходняй Еўропы". Арганізоўваліся лекцыі, майстар-класы нямецкіх мастакоў — напрыклад, прафесараў Ціма Ульрыхса і Уда Шэля з Акадэміі мастацтваў г. Мюнстэра, доктара Фердынанда Ульрыха, дырэктара музеяў г. Рэклінгаўзэна, прафесара, доктара Міхаэля Гласмайера з Вышэйшай школы мастацтваў г. Брауншвейга і шмат што іншага. Праекты інстытута тычацца не толькі выяўленчага мастацтва. Былі праведзены дзве міжнародныя сустрэчы бардаў "Нябачны мур", у супрацоўніцтве з мінскім "Кінаклубам" праведзена больш за 40 сумесных кінапраграм — ад класікі нямога кіно да эксперыментальных фільмаў Віма Вэндэрса і да сучаснага кіно.

***— Як бы вы хацелі, каб будавалася праца інстытута пад вашым кіраўніцтвам?***

— Мы, вядома, будзем працягваць супрацоўніцтва з тымі партнёрамі, што ўжо сябе зарэкамендавалі. Але ўсталёўваем супрацоўніцтва і з новымі. Асабліва цікавым я лічу супрацоўніцтва, якое толькі што ўзнікла з Музеем гісторыі беларускага кіно. Музейшчыкі папрасілі нас дапамагчы адшукаць у гістарычных архівах Германіі фільмы, якія тут былі страчаныя або знішчаныя ў трыццатыя гады. З 17 лістапада ў Музеі гісторыі беларускага кіно пройдзе акцыя "Новае нямецкае кіно". Беларускі глядач зможа пабачыць чатыры кінастужкі, знятыя нямецкімі рэжысёрамі ў 2000 годзе. Такая ж акцыя адбудзецца ў Брэсце ў Кінавідэацэнтры "1 мая".

***— Наколькі Інстытут Гётэ — адкрытая ўстанова? Калі шараговы чалавек захоча вывучаць нямецкую мову, нямецкую культуру, ці зможа ён проста прыйсці сюды і атрымаць дапамогу?***

— Наша ўстанова безумоўна адкрытая. А першае месца, куды павінен звяртацца чалавек, які цікавіцца нямецкай моваю і нямецкай культурай — гэта бібліятэка інстытута.

***— Але каб атрымаць падобную дапамогу, трэба абавязкова валодаць нямецкай мовай?***

— Не. Большасць носьбітаў інфармацыі, вядома, на нямецкай мове. Але супрацоўнікі бібліятэкі дапамагаюць у пошуку інфармацыі і ва ўсталяванні кантактаў тым, хто мовай не валодае.

***— Гістарычна так склалася, што на Беларусі сяліліся суполкі людзей розных нацыянальнасцяў. Жылі і немцы. Мой дом, напрыклад, знаходзіцца ў тым раёне Мінска, дзе ў канцы дзевятнаццатага стагоддзя жылі немцы. Гэтая мясціна называлася Лютэранскім прадмесцем, і былі там вуліцы Лютэранская, Мала-Лютэранская і Нямецкая, а таксама Нямецкія могілкі і кірха Святога Мікалая. Так што нямецкая культура Беларусі не чужая.***

— Найлепш пра гэта, мне здаецца, напісала Вольга Іпатава, таму працытую яе верш, які называецца "Нямецкая мова":

*Яна прыплывала да нас*
*Купецкімі стругамі ганзейцаў,*
*Яе шпурлялі на драўляны прычал*
*Разам з "маслам святога Квірынуса",*
*Шоўкам і парчой.*
*Яна падала рэхам у Дзвіну*
*І чаплялася белаю хмаркай*
*За крыж Святой Сафіі.*

*Яна тупацела па нас*
*Бязлітаснай падэшваю крыжака,*
*Нязношвальным салдацкім ботам,*
*Які і па сёння не згніў у зямлі.*
*Яна пратыкала нас гучным*
*"Хэндэ хох!",*
*Нібыта рагамі быка,*
*І вывальвалася з нашых хат,*
*Камянеючы*
*ў надмагіллях.*

*А сёння яна*
*Схіляецца ў белым*
*халаце*
*Над лысым ад хіміятэрапіі*
*Дзіцёнкам.*
*І вычэрпвае, як жураўель,*
*З нашае студні*
*Чарнобыльскую*
*каламуць.*

*І прышывае нас*
*Сярэбранымі іголкамі*
*"Люфтганзы"*
*Да каляровай сукні*
*Еўропы.*
*І мы сутаргава*
*успамінаем яе,*
*Як звон келіха*
*На раздарожжы.*

***— Фраў Фрэнкель-Тонэт, вы прыехалі на Беларусь толькі ў красавіку гэтага года. Думаецца, нашым чытачам было б цікава пазнаёміцца з вамі асабіста.***

— Я нарадзілася ў Мюнхене ў 1957 годзе. У сістэме Інстытута Гётэ я ўжо адзінаццаць гадоў. Спачатку працавала ў Мюнхене, Мурнаў і Мілане, потым у Каіры, Браціславе. З першага красавіка гэтага года маю прыемную магчымасць працаваць на Беларусі. Гэтая краіна падаецца мне вельмі і вельмі цікавай.

***— Ці можна даведацца, хто вы па адукацыі?***

— Я вывучала індалогію і санскрыцкую мову. Гэта тлумачыцца тым, што я паходжу з сям'і дыпламата і ў дзяцінстве шмат часу правяла ў Тайландзе. І ў юнацтве мяне вельмі цікавіла ўсходняя філасофія.

***— Напэўна, вы яшчэ не паспелі грунтоўна пазнаёміцца з нашай літаратурай, каб паразважаць пра яе адметнасці, але, можа быць, вы раскажаце пра свае прыхільнасці ў літаратуры, у мастацтве ўвогуле?***

— Мяне найбольш цікавіць сучаснае мастацтва. Што тычыцца англамоўнага арэалу, я з задавальненнем чытаю Сэмюэла Бекета, П. Остэра — гэта сучасны нью-йоркскі аўтар. Але, вядома, галоўная мая зацікаўленасць — літаратура на нямецкай мове. І тут я больш за ўсё люблю чытаць Гюнтэра Граса, які папулярны і тут. Зараз вось я чытаю Штэфана Ваквіца і Андрэаса Майера.

***— Вы жылі ў краінах, якія называюць экзатычнымі. Ці заўважылі вы такую з'яву, як беларуская экзотыка?***

— Не сказала б, што гаворка можа ісці пра экзотыку. Мяне найбольш парадавалі цудоўныя краявіды — я ездзіла ўжо ў Брэст, Магілёў і Віцебск. І другое, што зрабіла на мяне вялікае ўражанне, — людзі, з якімі я тут супрацоўнічаю. Нашы партнёры ў гэтай краіне — вельмі цікавыя асобы. Я маю ўсе падставы сцвярджаць гэта, бо ў мяне ёсць магчымасць параўнання з іншымі краінамі. І цікавасць да Германіі тут сапраўды вялікая.

***— Што б вы пажадалі чытачам нашага штотыднёвіка?***

— У вашай краіны вялікі патэнцыял, і мне думаецца, калі кожны чалавек зможа рэалізаваць свой патэнцыял, вас чакае цудоўная будучыня.

***— Дзякуем за гутарку, фраў Фрэнкель-Тонэт. Жадаем вам плённай працы на Беларусі і ад імя ўсіх нашых чытачоў віншуем Інстытут Гётэ з юбілеем.***

**Гутарыла Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**

анамастыцы. У 1969 г. за працу "Беларуская антрапанімія" М. Бірылу прысвоена навуковая ступень доктара філалагічных навук. Праз два гады ён быў зацверджаны ў званні прафесара і абраны членам-карэспандэнтам, а ў 1977 г. — акадэмікам АН БССР і атрымаў ганаровае званне заслужанага дзеяча навукі Беларусі. З гэтага ж года ён выконваў абавязкі акадэміка-сакратара і доўгі час быў акадэмікам-сакратаром Аддзялення грамадскіх навук.

Для людзей, захопленых творчасцю, праца — гэта тое, што дазваляе чалавеку не толькі выстаяць у самых цяжкіх жыццёвых абставінах, але і праявіцца ў самых розных галінах навукі. Эрудыцыя і высокая культура працы дазвалялі Мікалаю Васільевічу Бірылу весці шматаспектную навукова-даследчую працу. Ён — лінгвіст шырокага дыяпазону. Яго навуковая дзейнасць характарызуецца разнастайнасцю аб'ектаў даследавання, глыбінёй думкі, мэтанакіраванасцю і перспектыўнасцю. М. Бірыла вядомы і як лексікограф — тэарэтык і практык адначасова. Як буйны спецыяліст у галіне сучаснай беларускай мовы, які актыўна распрацоўваў пытанні нармалізацыі літаратурнай мовы. Пад яго рэдакцыяй упершыню ў беларускай лексікаграфіі быў створаны нарматыўны агульнадаступны дапаможнік "Слоўнік беларускай мовы: Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне", які закліканы садзейнічаць павышэнню культуры мовы, бо змяшчае звесткі аб нарматыўным ужыванні слоў і ўтварэнні іх форм, аб вымаўленні і арфаграфіі. Даведнік сумяшчае адразу чатыры моўныя аспекты і дазваляе чытачу з адной крыніцы атрымаць рознабаковыя характарыстыкі пераважнай большасці беларускіх слоў: правапіс, месца націску ў формах слоў, пералік саміх гэтых форм з указаннем на спецыфіку іх ужывання ў літаратурнай мове і ўзорнае літаратурнае вымаўленне. Навізна і высокая каштоўнасць "Слоўніка беларускай мовы" пад рэдакцыяй М. Бірылы ў першую чаргу тлумачыцца тым, што правапісныя і вымаўленчыя нормы беларускай мовы, раней вядомыя толькі з тэарэтычных прац, пададзены канкрэтна і шматбакова. Выданне "Слоўніка беларускай мовы" з'явілася значнай падзеяй, якая стымулявала ўздым культуры мовы ў краіне. Даступнасць падачы матэрыялу дала магчымасць выкарыстоўваць слоўнік усім, хто цікавіцца пытаннямі літаратурнай беларускай мовы.

Пад кіраўніцтвам і пры непасрэдным удзеле акадэміка М. Бірылы былі створаны: "Русско-белорусский словарь общественно-политической терминологии", "Анамастычны слоўнік мовы твораў Якуба Коласа", "Руска-беларускі слоўнік сельскагаспадарчай тэрміналогіі" і шмат іншых лексікаграфічных прац.

У Мікалая Васільевіча Бірылы быў і яшчэ адзін неацэнны дар — уменне і жаданне дапамагчы людзям, перадаць веды і навыкі сваім вучням. Ён актыўна рыхтаваў кадры мовазнаўцаў. Пад яго кіраўніцтвам напісана і абаронена 20 кандыдацкіх і доктарскіх дысертацый, пры абароне дысертацыйных даследаванняў іншымі ён часта выступаў у якасці афіцыйнага апанента. Выдатны спецыяліст і таленавіты педагог унёс важкі ўклад у падрыхтоўку навуковых кадраў, выхаваў цэлую генерацыю высокакваліфікаваных мовазнаўцаў, навучыў іх самастойнасці, працавітасці і навуковай смеласці ў вырашэнні даследчых задач. З цеплынёй і ўдзячнасцю ўспамінаюць свайго прафесара беларускай мовы былыя студэнты кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта, дзе Мікалай Васільевіч чытаў увесь цыкл навуковых дысцыплін па беларускім мовазнаўстве.

Ён любіў людзей, жыў для людзей, і яны цягнуліся да яго, прыходзілі па дапамогу і параду. М. Бірыла заўсёды ўважліва ставіўся да моладзі, не шкадаваў ні сіл, ні часу для сваіх вучняў, быў для іх не толькі кіраўніком, але і сябрам. Шматлікія яго вучні цяпер сталі буйнымі вучонымі краіны.

Маштабнасць нармалізатарскай работы, творчы падыход да кожнага слова ўзнімаюць грамадскую ролю навуковай спадчыны выдатнага вучонага, надаюць ім значэнне нарматыўных крыніц для павышэння культуры мовы. Асабліва актуальнымі працы М. Бірылы з'яўляюцца сёння, калі нормы беларускай літаратурнай мовы размываюцца, што небяспечна для самога яе існавання. Таму вопыт навуковай дзейнасці акадэміка Бірылы як быццам бы заклікае лінгвістаў не быць староннімі назіральнікамі моўных працэсаў, не глядзець на іх, бездапаможна разводзячы рукамі, але паслядоўна, абгрунтавана і рашуча змагацца за замацаванне літаратурных норм шляхам стварэння фундаментальных прац і практычных даведнікаў.

Важкім вынікам шматгадовай плённай дзейнасці мовавeда засталася яго навуковыя працы. Багатая творчая спадчына вучонага з'яўляецца яркай старонкай у гісторыі беларускага мовазнаўства. Спалучэнне таленту арганізатара навукі і вучонага-даследчыка — з'ява надзвычай рэдкая. Творчая біяграфія М. Бірылы — адзін з прыкладаў такога шчаслівага спалучэння. Навуковая спадчына акадэміка М. Бірылы — гэта сур'ёзны здабытак мовазнаўства, а яго жыццё і навуковая дзейнасць — найлепшы прыклад адданага служэння навуцы.

**Валянціна РУСАК**

---

**КНІГІ**

***Выдавецтвам "Тэсей" перавыдадзены, падрыхтаваны супрацоўнікамі юрыдычнага факультэта Белдзяржуніверсітэта Другі Статут Вялікага Княства Літоўскага, які ўпершыню быў надрукаваны ў Маскве ў 1855 годзе, з першапачатковага рукапісу на беларускай мове і да гэтага часу не перавыдаваўся. Таму, тое выданне статута, адносілася да рэдкіх старадрукаў і было цяжкадаступным для шырокага кола чытачоў, якія цікавіліся нашай гісторыяй.***

# СТАТУТ 1566 ГОДА

Статут 1566 г., быў самым дасканалым тагачасным зводам законаў ва ўсёй Еўропе. Ён складаўся з 14 раздзелаў і 367 артыкулаў. У ім меліся нормы канстытуцыйнага права, якія акрэслівалі дзейнасць вышэйшых органаў дзяржаўнай улады і абмяжоўвалі ўладу вялікага князя і караля, чаго не было ў тагачаснай Еўропе, больш таго ў артыкуле 2 раздзела 3 абвяшчалася, што вялікі князь (гаспадар) абяцаў усіх паноў, шляхту, мяшчан "всих людей посполитых (простых) у Великом Княстве Литовском... захавати при свободах и вольностях хрестиянских". Статут замацоўваў суверэнітэт Вялікага Княства, забараняў надзяляць пасадамі, ганаровымі званнямі і дзяржаўнай маёмасцю чужаземцаў і заграанічнікаў, усталёўваў незалежныя ад адміністрацыі выбарныя земскія суды.



Статут Вялікага княства Літоўскага 1566 года

Мінск ТЭСЕЙ 2003

Новае выданне статута складаецца з уступу, уводнага артыкула, тэксту статута, каментарыяў і тлумачальнага слоўніка.

Ва ўводным артыкуле звяртаецца ўвага на вострую палітычную барацьбу паміж староннікамі прагрэсіўных поглядаў, якіх узначальваў Радзівіл Мікалай Чорны (ён жа асноўны кіраўнік групы, што распрацоўвала статут) і клерыкальна-рэакцыйнай групы, у выніку чаго статут набыў свецкі характар. Папершае гэта пацвярджаецца тым, што ён быў выдадзены не на лацінскай, а на беларускай мове. А па-другое аб гэтым сведчыць тое, што ў статуце няма ніводнай нормы, якая б сведчыла аб перавазе царкоўнага права над свецкім.

У артыкуле адзначаецца, што праект статута шырока абмяркоўваўся на агульных соймах з 1561 года, што сведчыць аб актыўным удзеле ў распрацоўцы статута не толькі спецыяльна створанай камісіі, але і шырокіх колаў шляхты.

У падрыхтоўцы статута прымалі ўдзел шмат высокаадукаваных дзяржаўных дзеячаў, а таксама маршалак дворны, пісар (потым падканцлер), староста Магілёўскі Астафій Валовіч.

У каментарыі да статута, напісаным прафесарамі І. Юхо, Т. Доўнар і дацэнтам У. Сатоліным паказана значэнне прывілеяў у агульнай сістэме права Вялікага Княства Літоўскага, а таксама гісторыя развіцця артыкулаў статута.

Можна спадзявацца, што Статут 1566 года саслужыць добрую службу ў вывучэнні гісторыі беларускага народа.

**Алена ЛОБУЗАВА,**
**студэнтка 5 курса юрфака БДУ**

---

велічнага касцёла супакоілася побач з продкамі і душа Артура.Ткаў потым узбоч яго помніка паўсталі яшчэ два сціплыя крыжы: бацька ненадоўга перажыў сына, а маці-пакутніца памерла ўсяго толькі год назад.

Леакадзія на нястаніщскіх могілках бывае часта — тут пакоіцца і яе радзіна, бо жыхароў Соргаўцаў, якія адносяцца да нястанішскай парафіі, таксама хаваюць на гэтых могілках. Хоць для таго, каб труну з нябожчыкам даставіць да месца вечнага адпачынку, трэба зрабіць ладны крук, аб'ехаўшы на мост кіламетраў сорак, вяскоўцы не наракаюць. Бо кожны хоча, як і Артур, у тым, кажуць, што лепшым, свеце быць разам са сваімі, з продкамі.

У кожны свой прыход Леакадзія абавязкова адведвае магілу Артура Цяжкага. Яна, як і я, не ведала яго асабіста, але шчыра захапляецца яго творамі. І лічыць справай гонару і абавязку кожны раз пакланіцца яго памяці, нагадаць яго душы, што пісьменніка помняць, чытаюць і любяць.

...Рамуальда Зыгмундаўна Крушынская спрытна правіць лодкай, перапраўляючы нас на другі бок Віліі. Для яе гэтая справа звыклая: яшчэ калі працавала ў калгасе, які знахозіўся па той бок ракі, кожны дзень па некалькі разоў дастаўляла на працу і назад, дахаты, аднавяскоўцаў. Ды і цяпер — кожны, у каго ўзнікне нейкая патрэба патрапіць на смаргонскі бераг, ідуць да хаты Крушынскіх, што стаіць на водшыбе, на самым беразе зеленабровай Віліі. І нікому ні ў які час сутак жанчына не адмовіла, прычым платы за сваё па сутнасці кругласутачнае дзяжурства на рацэ ніколі не бярэ — лічыць гэта сваім пачэсным абавязкам. Ну як можна не захапляцца такімі людзьмі, не пакланяцца ім, як гэта рабіў Артур Цяжкі, не пісаць пра іх?

— А вы куды сабраліся? — цікавіцца ў нас Рамуальда Зыгмундаўна, якая, нягледзячы на свой пенсійны ўзрост, лоўка ўпраўляецца шастом і вяслом — мы толькі здзіўлена-захоплена назіраем, як лагодна струменіцца узбоч хуткаплынная рака.

— Мы — да Артура, — тлумачыць Леакадзія. А мне карціць удакладніць:

— Вы яго ведалі?

— А як жа, — адказала наша перавозчыца. — Яго тут усе ведалі...

...Правы бераг сустракае нас ліпеньскім дажджом — цёплым, нечаканым, праліўным. Марна спрабуючы схавацца ад патокаў вады, мы, сённяшнія супрацоўнікі "Астравецкай праўды", разуўшыся, бадзёра месім гразь па дарозе да могілак. Ісці далекавата — кіламетры са тры. І халаднавата — праз колькі хвілін змоклі ўшчэнт. Але ўсе нязручнасці адступаюць перад усведамленнем асаблівасці моманту — гэта ўжо зямля Артура Цяжкага, тая самая, якую ён, па сведчанні блізкіх яму людзей, кожны раз, вяртаючыся дахаты, цалаваў, прыгаворваючы: "Здарова будзь, зямліца..." Адчуванне гэтае толькі ўзмацняе наш добраахвотны экскурсавод — Леакадзія Мілаш, якая захоплена расказвае пра шматвекавую гісторыю тутэйшых мясцін, пра велічны некалі Нястанішскі парк, у якім, кажуць, яшчэ захаваліся дрэвы, пасаджаныя Дунінам-Марцінкевічам, пра людзей, якія тут жылі раней і пакінулі пра сябе добрую памяць...

Нарэшце мы прыйшлі. Леакадзія звыкла абмінае агароджы і помнікі, вядзе нас да прыкметнай здалёк мармуровай пліты з лаканічным надпісам: "Артур Цяжкі. Беларускі пісьменнік". І знізу — дзве лічбы: 1943— 1983, гады нараджэння і смерці. Бронзавы барэльеф з сумнымі-сумнымі вачыма — кажуць, менавіта такімі найчасцей былі яго вочы ў жыцці...

Калі мы паставілі да помніка асляпляльнабелыя ў шэрані зацягнутага хмарамі дня хрызантэмы, дождж прыпусціў мацней — і з павекаў на барэльефе адна за адной пакаціліся буйныя кроплі...

Левы бераг сустрэў нас, як і правеў — зіхоткім сонцам і ўмытай шчодрым ліпеньскім дажджом зелянінай.

— Ну, што вам сказаў Артур? — без цяню жарту спыталася, адштурхоўваючы доўгім шастом лодку ад берага, Рамуальда Зыгмундаўна.

— Паплакаў разам з намі...

...З намі. І са сваім небам. Са сваімі дрэвамі. І затым, разам са сваёй зямліцай, якую так беззапаветна любіў.

**Ніна РЫБК**

---

**ПАМЯЦЬ**

# БЫЛО Б 85

28 жніўня споўнілася б 85 гадоў Міхасю ПЯНКРАТУ, аўтару зборніка вершаў "Салаўіныя бераг" (1956), кнігі нарысаў "Простыя людзі" (1957), гумарысту, які напісаў кніжкі сатырычных апавяданняў "Палын і кветкі" (1958), "Не з таго канца" (1959), "Шчасце маё" (1962), "Аўтарытэт на колах" (1968), "Прынцыповы пасаг" (1978), "Спатканні і ростані" (1978), "Двое ў лодцы" (1983). І гэта далёка не ўсё, што паспеў зрабіць Міхась Пянкрат за сваё жыццё. Ён уславіў родную Чэрвеньшчыну, калі выдаў гісторыка-эканамічны нарыс "Чэрвень" (1977). Вершы друкаваў у айчынных перыёдыцы, пераклаў на беларускую мову з рускай творы Л. Талстога, С. Шчыпачова, М. Аліґер, з украінскай — С. Алейніка, А. Вішні, Ф. Макіўчука, А. Гармацюка. Даследчыкі адзначаюць любоў пісьменніка да ўсяго жывога, да роднай прыроды. М. Пянкрат паказаў таксама ў сваіх творах партызанскую барацьбу супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Асобныя вершы паэта былі пакладзены на музыку. Творы перакладзены на розныя мовы свету.

Нарадзіўся ж Міхась Пянкрат у сялянскай сям'і. Атрымаў спецыяльнасць агранома ў Смілавіцкім сельскагаспадарчым тэхнікуме. Удзельнічаў у савецка-фінскай вайне, у гады Вялікай Айчыннай быў у партызанах. Працаваў у розны час у рэдакцыях газет "Бальшавіцкі сцяг" (рудзенская раённая), "Сталинская молодежь", "Савецкі селянін", "Колхозная правда", "Сельская газета", у часопісе "Вожык". Быў узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны 2-й ступені.

---

**Супрацоўнікі выдавецтва "Мастацкая літаратура" выказваюць глыбокае спачуванне СЕМАШКЕВІЧ Наталлі Іванаўне ў сувязі з вялікім горам — смерцю маці.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне народнаму пісьменніку Беларусі Янку БРЫЛЮ ў сувязі з напаткаўшым яго вялікім горам — смерцю жонкі, Ніны Міхайлаўны.**

**Рэдакцыя штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" выказваюць шчырае спачуванне народнаму пісьменніку Беларусі Янку БРЫЛЮ ў сувязі з вялікім горам, якое напаткала яго — смерцю жонкі, Ніны Міхайлаўны.**

## АФІША ВЕРАСНЯ



**Нацыянальны акадэмічны тэатр балета РБ**
**пл. Парыжскай Камуны, 1, тэл. 234-06-66**

12 — К. Орф "Карміна Бурана", Ж. Бізэ — Р. Шчадрын "Кармэн-сюіта".
14 (**раніцай і ўвечары**) — Л. Герольд "Марная перасцярога".
17 — П. Чайкоўскі "Спячая прыгажуня".
19 — А. Мдзівані "Страсці" ("Рагнеда").
23, 24 — С. Пракоф'еў "Рамэо і Джульета".
26 — П. Чайкоўскі "Шчаўкунчык".
28 — А. Хачатуран "Спартак".
Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне.

**Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы**
**пл. Парыжскай Камуны, 1, тэл. 234-10-41**

16 — М. Мусаргскі "Хаваншчына" (прэм'ера).
18 — В. А. Моцарт "Вяселле Фігара".
20 — Д. Вердзі "Баль-маскарад".
21 (**раніца**) — Дзіцячы музычны тэатр-студыя, А. Будзько "Пітэр Пэн".
21 (**вечар**) — Д. Пучыні "Багема".
25 — П. Чайкоўскі "Іяланта".
27 — Д. Вердзі "Трубадур".
28 (**раніца**) — Дзіцячы музычны тэатр-студыя, Ц. Кюі "Кот у ботах".
30 — А. Барадзін "Князь Ігар".
Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне.

**Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Я. Купалы**
**вул. Энгельса, 7, тэл. 227-17-17**

12 — А. Дудараў "Чорная панна Нясвіжа", містычная легенда аб любві.
13, 14 — Я. Стэльмах "Каханне ў стылі барока", камедыя.
15 — А. Дудараў "Кім", "Крымінальная" меладрама.
17, 18 — Я. Купала "Тутэйшыя", трагікамічныя сцэны.
19 — А, Курэйчык "Згублены рай", драма.
20 — Ф. Дзюрэнмат "Ромул Вялікі", гістарычна недакладная камедыя.

**Малая сцэна**

13 — Д. Хуан "Дом, дзе спяць прыгажуні", "японская гісторыя".
25 — М. Сайман "Я не пакіну цябе..."
Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне.

**Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі**
**вул. Крапоткіна, 44, тэл. 234-60-08**

19 — Канцэрт-спектакль (з нагоды 10-годдзя тэатра).
20 — Я. Купала "Адчуваная песня", опера-фольк.
21 — М. Сагалаў "Палёты з анёлам".
23 — Я. Таганаў "Адэль", гісторыя кахання.
24 — М. Рудкоўскі "Жанчыны Бергмана".
25 — А. Шчуцкі "Капаснікі".
Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне.

**Тэатр-студыя кінаакцёра**
**пр. Машэрава, 13, тэл. 223-08-11**

12 — Г. Салоўскі "Востраў нашай любові і надзеі", праўдзівая казка для дарослых.
13, 14 — С. Бартохава "Поле бітвы", камічная драма.
16, 17 — Л. Жухавіцкі "Апошняя жанчына сеньёра Хуана", авантурная камедыя.
18, 19 — Э. дэ Філіпа "Філумена Мартурана".
20, 21 — Л. Вернейль "Выкраданне Алены", французскі ад'юльтэр.
Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне.



*НА ЗДЫМКУ: сцэна з балета "Марная перасцярога".*

ФОТА К. ДРОБАВА

## ПАСПЯШАЙ!



# СВАЙМУ... ІМЯНІННІКУ

***14 верасня*** **ў Палацы культуры "Сукно" (станцыя метро "Пушкінская", вул. Матусевіча, 20) гурт "N.R.M." ладзіць канцэрт на дзень народзінаў Лявона Вольскага. Прагучаць старыя і новыя хіты, кампазіцыі з вядомых супольных музычных праектаў "Народны альбом", "Я нарадзіўся тут" ды інш. Увага: пачатак імпрэзы — а 18-й гадзіне.**

## АНОНС

# ЧАКАЕМ АДКРЫЦЦЯЎ!

***Чарговы сезон Беларускай дзяржаўнай філармоніі ўрачыста адкрыецца 22 верасня. На жаль, у "чужых" сценах, але, як той казаў, — у намоленых, музычных: у Нацыянальным акадэмічным тэатры оперы і балета.***

Ад гэтага, першага вялікага канцэрта новага сезона чакаем адкрыццяў. Бо Акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам Аляксандра Анісімава рыхтуе праграму, адметную ўдзелам замежных салістаў і значнай музычнай прэм'ерай. Салісты-госці — гэта сапрана Хэлен Бернардзі (Бельгія), тэнар Робін Легейт (Вялікабрытанія) ды бас Дэніел Льюіс Уільямс (ЗША). А прэм'ернай будзе доўгачаканае выкананне новай, ужо адзінаццатай сімфоніі карыфея беларускай музыкі Дзмітрыя Смольскага. Афіша прываблівае таксама імем Рыхарда Вагнера: прагучыць I акт яго музычнай драмы "Валькірыя".

С. Б.



*НА ЗДЫМКУ: народны артыст Беларусі кампазітар Дзмітрый СМОЛЬСКІ.*

Фота А. МАЦЮША

# БЕЛАРУСКІ КАЛЕГІУМ

**Прапануе дататковае навучанне па спецыялізацыях:**

- **журналістыка;**
- **найноўшая гісторыя;**
- **філасофія/літаратура.**

Запрашаюцца студэнты старэйшых курсаў гуманітарных спецыяльнасцяў альбо асобы з вышэйшай адукацыяй. У выключных выпадках прымаюцца і студэнты малодшых курсаў. Навучэнцам БК можа быць толькі той, хто пастаянна альбо на час навучання пражывае ў Мінску.

Навучальныя праграмы БК арыентаваныя на выкладанне найноўшых фрагментаў сучасных ведаў і не дублююць існуючыя праграмы дзяржаўных і недзяржаўных універсітэтаў. Сертыфікат Калегіума не замяняе дыплом аб вышэйшай адукацыі.

**Навучанне ў БК — бясплатнае.**

**Пачатак заняткаў з 1 кастрычніка 2003 г.**

Запіс на сумоўе — па 19 верасня г.г. Абавязковай умовай запрашэння на сумоўе з'яўляецца падача да пазначанай вышэй даты аднаго альбо некалькіх уласных тэкстаў памерам не меней 5000 знакаў. Тэкстамі лічацца як друкаваныя, так і недрукаваныя матэрыялы (журналісцкія, паэтычныя ці празаічныя тэксты, тэксты даследніцкага, рэфератыўнага ці іншага характару, эсэ на вольна абраную тэму і г. д.).

Для сумоўя па спецыялізацыі найноўшая гісторыя тэксты не патрабуюцца.

**Даведкі па тэл. 220-63-36 з 14.00 да 18.00 штодня, акрамя суботы і нядзелі.**

## У СТАЛІЦЫ



**Зала камернай музыкі**
**пр. Ф. Скарына, 44а**
**тэл. 284-44-33, 284-47-09**

**12, 13 — Арганныя канцэрты.** Выканаўца — Штэфан ХОРЦ (Германія).

**18 — Аляксандр МІЛЬТО** (арган, клавесін), навучэнцы Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі Ганна Маркава (скрыпка, клас Л. Куляшова) і Аліса Маліноўская (віяланчэль, клас І. Сцяпанавай). У праграме творы Бакерыні, Віталі, Вівальдзі, Джэміняні.

**22 — Дуэт:** скрыпач Міхаіл Казінік (Швецыя) і піяністка Зоя Качарская (Беларусь). Творы Моцарта, Шуберта, Шумана, Брамса.

**23 — "Апафеоз паланеза"** — праграма Ансамбля салістаў "Класік-Авангард". Мастацкі кіраўнік Уладзімір Байдаў.

**25 — "Госціца"**, ансамбль Белтэлерадыёкампаніі. Мастацкі кіраўнік Ларыса Сімаковіч.

**26 — Арганная музыка** ў выкананні навучэнцаў Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі. Клас Наталлі Выграненкі.



*НА ЗДЫМКУ: Аляксандр МІЛЬТО.*




Выходзіць З 1932 ГОДА
**У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў**

**ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР**
**Віктар ШНІП**

**Рэдакцыйная рада:**

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**

**Леанід ГАЛУБОВІЧ,**

**Алесь ГАЎРОН — адказны сакратар,**

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**

**Уладзімір САЛАМАХА — намеснік галоўнага рэдактара**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**
**ТЭЛЕФОНЫ:**
**галоўны рэдактар — 284-6673**
**намеснік галоўнага рэдактара — 284-4404**
**адказны сакратар — 284-6673**

**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-7965**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7965**
**літаратурнага жыцця — 284-7965**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7965**
**паэзіі і прозы — 284-7965**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-7965**
**карэктарская — 284-8091**
**бухгалтэрыя — 284-6672**
**Тэл./факс — 284-84-61**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 1607
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 10.09.2003 у 15.00

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 3488

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12